# ЛіМ ЛІТАРАТУРА і МАСТАЦТВА

11 ЛІПЕНЯ 2003 г. № 28/4214


***Мінск святкаваў вызваленне***

Рэпартаж пра Дзень Незалежнасці

3,12



**Чатыры думкі пра кнігу вершаў *Янкі ЛАЙКОВА***



6-7

***Паэт пайшоў, а вершы засталіся:***

неапублікаваныя пры жыцці Васіля САХАРЧУКА

14-15



# „СЛАВЯНСКІ БАЗАР У ВІЦЕБСКУ" ЗАПРАШАЕ ГАСЦЕЙ

***СЁННЯ — першы дзень фестываля "Славянскі базар у Віцебску"***

Працяг на стар. 2

*НА ЗДЫМКУ: спявачка Ірына ДАРАФЕЕВА*

Фота Алы ТКАЧЭНКІ

# КОЛА ДЗЁН

***12 ліпеня на галоўнай канцэртнай пляцоўцы Віцебска — Летнім амфітэатры — адбудзецца святочнае адкрыццё XII Міжнароднага фестывалю мастацтваў "Славянскі базар у Віцебску".***

## ПРАЕКТ ТЫДНЯ

Нарэшце гатовы канчатковы праект манумента Янку Купалу, які будзе ўстаноўлены ў Маскве. Пераможцамі конкурсу на лепшую работу, дзе было прадстаўлена пяць эскізаў, сталі скульптуры Льва і Сяргея Гуміleўскіх. Помнік уяўляе сабой невялікі курган, дзе сярод маляўнічага ландшафту — чатырохметровая фігура Купалы з бронзы. На гранітным пастаменце надпіс: "Мне сняцца сны аб Беларусі". Бронзавы паэт абапіраецца на валун, на якім цвіце папараць. З-пад каменя б'е крыніца — сімвал вечнага жыцця. Помнік Янку Купалу вырашана размясціць у невялікім скверы на Кутузаўскім праспекце. Адкрыццё манумента адбудзецца ў наступным годзе.

## МЕДАЛІСТЫ ТЫДНЯ

Паводле папярэдняй інфармацыі Галоўнага ўпраўлення агульнай сярэдняй адукацыі Міністэрства адукацыі Беларусі, сёлета медалі па выніках паспяховай вучобы ў школе атрымалі 5555 школьнікаў, што складае 6,1 працэнта ад агульнай колькасці выпускнікоў. Летась медалямі былі ўзнагароджаны 6126 выпускнікоў, або 6,8 працэнта.

## ЛІЧБА ТЫДНЯ

На сустрэчы з журналістамі намеснік міністра абароны Рэспублікі Беларусь Уладзімір Сераштан паведаміў, што ў беларускай зямлі застаецца каля 1 мільёна салдат, імёны якіх дагэтуль не ўстаноўлены.

## УЛІК ТЫДНЯ

Па звестках Фонду сацыяльнай абароны насельніцтва ў нашай краіне практычна завершаны персаніфікаваны ўлік працуючых грамадзян у сістэме дзяржаўнага сацыяльнага страхавання. На сённяшні дзень індывідуальныя асабовыя рахункі адкрыты на 4,3 млн. чалавек, або практычна на ўсё працуючае насельніцтва Беларусі. Пры гэтым каля 4 мільёнаў грамадзян атрымалі на рукі пасведчанні дзяржаўнага сацыяльнага страхавання — як чакаецца, цалкам гэтая работа будзе завершана да жніўня гэтага года.

## АПЫТАННЕ ТЫДНЯ

Навукова-даследчы Інстытут сацыяльна-эканамічных і палітычных праблем Мінгарвыканкама правёў апытанне мінчан "на прадмет іх адносін да магчымасці ўвядзення расійскага рубля на тэрыторыі рэспублікі". Больш за 30 працэнтаў апытаных выказаліся супраць увядзення расійскай валюты на тэрыторыі рэспублікі, больш за 20 працэнтаў — падтрымалі падобную меру. На пытанне "якой замежнай валюце яны давяраюць", мінчане па-ранейшаму аддаюць перавагу амерыканскаму долару. Так 68 працэнтаў апытаных давяраюць долару, на еўра арыентуюцца 30 працэнтаў апытаных мінчан, расійскі рубель выбіраюць 2 працэнты апытаных. У ходзе даследавання было апытана 1030 чалавек.

## РОСТ ТЫДНЯ

З 1994 па 2002 год колькасць грамадзян Беларусі, якія выязджаюць па дагаворах і кантрактах на заробкі за мяжу, павялічылася ў 2,8 раза, а колькасць "працоўных імігрантаў" у нашу краіну ўзрасла амаль у 10 разоў. У прыватнасці, у 2002 годзе на заробкі за мяжу выехала 4011 беларусаў, а ў 1 квартале гэтага года — 318. Паказчыкі ўезду замежных работнікаў у Беларусь за гэты ж час былі 1046 і 106 чалавек адпаведна. Летась працоўныя мігранты з Беларусі працавалі амаль у 30 краінах свету, і пераважна — у ЗША, Расіі, Вялікабрытаніі, Германіі, Польшчы, Чэхіі, Францыі, Нарвегіі, Швецыі, Швейцарыі і Малдове.

**ВІНШУЕМ З ЮБІЛЕЕМ!**

Сёлета Гаўрылу Вашчанку споўнілася 75 год. У такім узросце кожны чалавек мае патрэбу азірнуцца, асэнсаваць пражытае, дасягнутае, здзейсненае. Гаўрыла Харытонавіч, народны мастак Беларусі, аўтар твораў, без якіх немагчыма ўявіць беларускі жывапіс XX стагоддзя, на пройдзены шлях можна глядзець з гордасцю.

# КАБ ВЫВЕРЫЦЬ ШЛЯХ

Першую мастацкую адукацыю ён атрымаў у 1948 годзе, калі скончыў Кіеўскую вучэльню ўжытковага мастацтва. Потым вучыўся ў Львоўскім дзяржаўным інстытуце ўжытковага і дэкаратыўнага мастацтва. Скончыў інстытут у 1953 годзе.

Большасць беларускіх мастакоў у той час вучыліся ў расійскіх (Масква, Ленінград) мастацкіх ВНУ, дзе шанаваўся рэалізм у яго традыцыйным разуменні, а прынцыпы адукацыі былі закладзены яшчэ ў часы Імператарскай Акадэміі. Львоўская "Alma mater" Гаўрылы Вашчанкі выгодна адрознівалася не толькі ад маскоўскіх і ленінградскіх ВНУ свайго профілю, але, бадай, і ад усіх мастацкіх ВНУ СССР. Навучальная праграма не была жорстка рэгламентаванай, студэнтам дазваляліся вольнасці творчага характару, за якія з кожнага іншага інстытута без ваганняў выганялі б. Рэч у тым, што Львоўскі інстытут быў колісь філіяй Варшаўскай акадэміі, і малады Вашчанка заспеў у ім той час, калі ў ім выкладалі старыя кадры, якіх ніякая сіла не здолела б звярнуць у бок "сацыялістычнага рэалізму". Тут шанавалі імпрэсіяністаў і Мацiса, з павагай гаварылі пра Сезана і кубістаў.Па стылёвых адзнаках Вашчанку 60-х гадоў можна аднесці да так званага "суровага стылю", які больш ці менш укараніўся ў мастацтве ўсіх саюзных рэспублік СССР. Але па сутнасці ён заўжды быў і застаецца унікальнай асобаю, самабытным творцам, у якім і прафесійныя знаўцы і аматары мастацтва заўжды пазнавалі беларуса, мэтра беларускай мастацкай школы.

Шэраг ягоных палотнаў прысвечаных вялікай вайне, сведкам і ўдзельнікам якой яму давялося быць, чарнобыльскай трагедыі, ахвярам сталіншчыны шчыра і сумленна апавядаюць пра крыжовы шлях нацыі ў XX стагоддзі.

Звяртаўся ён ў сваіх палотнах і да даўняй гісторыі нашай дзяржавы. У анталогію нашага жывапісу ўвайшлі "Грунвальдская бітва", і партрэт пераможцы пад Оршаю Канстанціна Астрожскага.

Ён жа аўтар і лірычных вобразаў роднага Палесся і цяпер ужо роднага мегаполіса Мінска. Шмат гадоў Гаўрыла Харытонавіч выкладаў у Беларускай акадэміі мастацтваў (да 1991 года Тэатральна-мастацкі інстытут), кіраваў кафедрай, дзе рыхтуюць мастакоў-манументалістаў. А роспісы і вітражы, зробленыя ягонай рукою, якія калісьці падаваліся гледачам нязвыклымі, амаль авангардысцкімі — цяпер таксама наша класіка, як і станковы жывапіс мэтра.



75 год — калі трэба азірнуцца. Але толькі на хвіліну, каб выверыць шлях наперад. Сапраўдны творца заўжды ў дарозе.

**П.В.**

**ПОСТАЦІ НАШАЙ ГІСТОРЫІ**

***6 лістапада будзе 120 гадоў з дня народзінаў Язэпа Лёсіка. ГА "Таварыства беларускай мовы імя Францішка Скарыны" распачало ўшанаванне памяці празаіка, публіцыста, мовазнаўца, літаратуразнаўца і палітычнага дзеяча выданнем кішэннага каляндарыка на 2003—2004 гг. Выкарыстана фота Язэпа Лёсіка 1930-х гадоў з сямейнага архіва дачкі Алесі Лёсік. На другім плане — будынак педагагічнага тэхнікума ў Менску (1925 г.), вокладкі вучэбных дапаможнікаў па беларускай мове, лагатып газеты "Беларусь", якую ён рэдагаваў, гады жыцця (1883—1940) ды сімволіка ТБМ. Дызайн выканаў мастак Ігар Марачкін.***

Язэп Лёсік 1883 - 1940

# ВЯРТАННЕ СЛАЎНАГА ІМЯ

Дадамо, што з удзелам таварыства рыхтуецца да друку кніга твораў Язэпа Лёсіка.

ГА "Таварыства беларускай мовы імя Францішка Скарыны" выпусціла юбілейны каляндарык, прысвечаны выдатнаму дзеячу навукі і культуры Вацлаву Ластоўскаму, якому сёлета, 20 кастрычніка, споўнілася 120 гадоў ад дня ягоных народзінаў. Вацлаў Ластоўскі — вядомы гісторык, публіцыст, пісьменнік, літаратуразнаўца і грамадска-палітычны дзеяч. Згадаем толькі ягоную "Гісторыю беларускай (крыўскай) кнігі", якая да сённяшняга дня не страціла сваёй навуковай вартасці. Выява Вацлава Ластоўскага змешчана на фоне базыльянскага манастыра ў Беразвечы. Пазначаны гады жыцця. Дызайн выканаў мастак Ігар Марачкін.

Запытвайце юбілейныя каляндарыкі ў сядзібе Таварыства беларускай мовы, што на вуліцы Румянцава, 13 у Менску.

**Ірына ЛЯКСЕЕВА**



***Міжнародны фестываль "Славянскі базар у Віцебску", які за сваю больш чым 10-гадовую гісторыю адкрыў шмат таленавітых спевакоў, зноў распачынае сваё свята. Ліпень — для яго традыцыйны месяц. Прабягуць хутка гэтыя ліпеньскія дні, і мы даведаемся пра новых лаўрэатаў, адкрыем для сябе непаўторных выканаўцаў песні.***

# СПЕЎНАЯ ПТУШКА

Але мне бачыцца, як урок для будучых лаўрэатаў фестывалю — выступленне на ім Ірыны Дарафеевай. Пра гэта сведчыць не толькі сама спявачка, але і яе аднадумцы — аўтары песні "Балада", песні-трыумфа "Славянскага базару-1999", паэт Уладзімір Пецюкевіч і кампазітар Дзмітрый Даўгалёў.

**Ірына Дарафеева, спявачка:**

Для мяне як выканаўцы песні "Балада" — гэта была адна з цяжкіх прац. Прапанова прыняць у 1999 годзе ўдзел у фестывалі "Славянскі базар" была нечаканай. Я ў той час планавала ўдзельнічаць у Міжнародным конкурсе "Голас Азіі". І мы пачалі ствараць песню літаральна за месяц. Хоць песня ўжо існавала, але, каб удзельнічаць у такім фестывалі, трэба было рабіць яе больш дасканалай. Давялося прасіць у аўтара слоў Уладзіміра Пецюкевіча, каб ён напісаў дадатковы куплет. Ён быў аб драматычных падзеях, якія толькі што адбыліся ў маі 1999 года ў пераходзе станцыі метро "Няміга" ў Мінску. Тады загінула шмат маладых дзяўчат і хлопцаў на тым самым месцы, аб якім гаворыцца ў "Слове аб палку Ігаравым". Мы былі ўпэўнены, што такая незвычайная драматургія песні прынясе поспех. Кампазітар Дзмітрый Даўгалёў стварыў арыгінальную аранжыроўку для аркестра, якая найбольш адпавядала майму голасу, змяніў мелодычную лінію ў розных куплетах.

**Дзмітрый Даўгалёў, кампазітар:**

Першы варыянт песні "Балада" мы напісалі з паэтам Уладзімірам Пецюкевічам у студзені 1994 года. "Балада" праляжала пяць гадоў у стале, пакуль не спатрэбілася спявачцы Ірыне Дарафеевай для ўдзелу ў Міжнародным конкурсе маладых выканаўцаў "Славянскі базар-1999". І толькі-толькі пачалі думаць, як нам узмацніць "Баладу" — на Нямізе, на вачах у Божай Маці, на Святую Тройцу адбылася жудасная трагедыя. Узрушаны Уладзімір Пецюкевіч дапісаў страфу балады, ёмістую і хвалюючую. Менавіта гэтыя чатыры радкі і вырашылі ўсю драматургію песні.

*Стрэлы хмарай чорнай засланялі сонца.*
*Чырванела рэчка ад крыві людской.*
*Бітва на Нямізе на Святую Тройцу*
*Апякла нам сэрцы жудаснай бядой...*

На конкурсе ўсё ўдалося Ірыне Дарафеевай. І сведчанне таму — яе бліскучая перамога. На мой погляд, Ірына па-майстэрску выканала ўсе пастаўленыя перад ёй творчыя задачы. Дарафеева — сапраўдная зорка беларускай эстрады. І я лічу, яе чакае вялікая будучыня.

Дзмітрый Даўгалёў, мой даўні сябра, напісаў да майго верша цудоўную балада-рамантычную музыку. А таленавітая, чароўная спявачка Ірына Дарафеева найлепш данесла аўтарскія і свае пачуцці патрабавальнаму слухачу і журы на фестывалі "Славянскі базар".

Што хочацца дадаць да ўсяго гэтага? Талент, Боскі дар, як той голас беларускай пеўчай птушкі, праявіцца, нягледзячы ні на што, важна — верыць у сябе, аддаваць цалкам свае здольнасці людзям, якія палюбяць цябе.

**Яўген ХВАЛЕЙ**




***Пра суверэнітэт Рэспублікі Беларусь загаварылі ў эфіры Беларускага тэлебачання яшчэ напярэдадні 3 ліпеня — Дня Незалежнасці. 30 чэрвеня ў інтэрв'ю прадстаўнікам трох беларускіх тэлеканалаў (БТ, ОНТ, СТВ) Прэзідэнт нашай краіны Аляксандр Лукашэнка выказаў сваё разуменне незалежнасці.***



3 ліпеня падчас адкрыцця ваеннага парада на Кастрычніцкай плошчы Аляксандр Лукашэнка яшчэ раз нагадаў пра незалежнасць. Пры гэтым адзначыў, што яна была б немагчымаю, калі б наш народ не перамог нямецка-фашысцкую навалу. Прэзідэнт краіны падкрэсліў, што менавіта Вялікая перамога дала нам магчымасць усведамляць сябе людзьмі, якіх нікому і ніколі не ўдасца паставіць на калені. Мы пабудавалі новую краіну — моцную, свабодную і незалежную. Сёння нам ёсць што берагчы, бо наш гістарычны арыенцір нязменны — дэмакратычная, эканамічна развітая дзяржава.

У гэты дзень Беларусь па-сапраўднаму адзначыла свята. Зразумела, найбольшыя ўрачыстасці адбываліся ў сталіцы.

Усіх уразіў ваенны парад Мінскага гарнізона, у якім прынялі ўдзел тры тысячы ваеннаслужачых, адметны пляц-парад — паказальныя выступленні роты ганаровай варты пад музыку Узводнага аркестра, шэсце моладзі (актывістаў БРСМ і піянерскай арганізацыі) і спартсменаў Беларусі.

# МІНСК СВЯТКАВАЎ ВЫЗВАЛЕННЕ

Напярэдадні Дня незалежнасці Прэзідэнт Рэспублікі Беларусь Аляксандр Лукашэнка ў інтэрв'ю тром беларускім каналам падкрэсліў, што сваю поўную незалежнасць мы набылі нядаўна. Таму павінны не проста ўсведамляць суверэнітэт нашай краіны, але і мацаваць яго.






У Мінску, як і па ўсёй краіне, людзей радавалі сваімі выступленнямі не толькі айчынныя дзеячы культуры, але і замежныя.

Адным словам свята атрымалася.

Н.К.

(Працяг на стар. 12)

# НА БЕЛАРУСКІМ РАДЫЁ

Працягваецца лета — пара адпачынку, творчых паездак, святаў. І пра найбольш важныя падзеі нямала расказваецца ў перадачах Беларускага радыё. Цікавымі былі рэпартажы з Вязынкі, з Аўцюкоў, адбыліся сустрэчы з новым дырэктарам Дзяржаўнага літаратурнага музея Янкі Купалы Сяргеем Вечарам, паэтамі Анатолем Аўруціным, пісьменнікам Уладзімірам Ліпскім і іншымі творцамі.

З аўторка па пятніцу ў 22.30 аматараў літаратуры запрашаюць праграмы "Брама", "Авансцэна", "Палітра", "Сентыментальнае паляванне", якія паўтараюцца на канале "Культура" у суботу і нядзелю.

Штодзённа пасля паўночы — "Кароткія гісторыі", а ў суботу, у 10.45 Алесь Бадак і радыёжурналісты знаёмяць з навінамі літаратурнага жыцця ў праграме "Літаратурны праспект".

Сустрэчы з літаратарамі адбываюцца таксама ў праграме "Клас і К" па суботах у 16 гадзін, а ў нядзелю — у "Радыёпарку" і ў вечаровых "Імгненнях паэзіі".

На канале "Культура" ў "Клубе дамаседаў" пачалося чытанне ў прамым эфіры рамана Янкі Брыля "Птушкі і гнёзды" — штодзень у 11 гадзін. У аўторак Галіна Шаблінская з серыяй літаратурных перадач з 14.10 да 18 гадзін.

У сераду і чацвер у "Клубе дамаседаў" аўтарская праграмы Васіля Макарэвіча "Натхненне", у якіх ён знаёміць з навінкамі беларускай прозы і паэзіі.

У суботу — паўтор праграм "Сентыментальнае паляванне" (9.00), "Гаспода" (10.10), "Брама" (15.45).

У нядзелю — паўтор праграмы "Палітра" (18.30) і ў 19.00 — "З фондаў радыё". У. Караткевіч. "Кнiганоша". Радыёпастаноўка. І. Шамякін "Аксана". Інсцэніраванае апавяданне. Я. Купала. Вершы.

Н. К.

# ЯПОНІЯ НА БЕЛАРУСІ

У Нацыянальным мастацкім музеі пры ўдзеле Пасольства Японіі ў Беларусі праходзіць выстава твораў дэкаратыўна-прыкладнога мастацтва Японіі XVIII-XX стст.

Кераміка, фарфор, кімано, нэцке, вырабы з бронзы... У кожнай рэчы — сузіранне прыроды, надзей і самога сябе — уся Японія, увесь светапогляд Усходу: гарманічнасць, адзінства чалавека і прыроды, прыгажосць, схаваная ў чым заўгодна — у слове, у руху, у сузіранні жыцця...

Асэнсаванне свайго Шляху адбываецца праз Дзеянне. І не так важна, якое яно, гэта Дзеянне: паэзія, мастацтва, скульптура, каліграфія, садоўніцтва, будзіцюцу ці чайная цырымонія. Важна, каб дзеянне было зроблена і заўсёды рабілася ў стане цэласнасці, прыроднасці...

Вось адкуль гэтая прыгажосць, вытанчанасць, прывабнасць кожнай японскай рэчы, вось адкуль гэты своеасаблівы менталітэт японцаў — людзей спакойных, добразычлівых, трывалых і ўпэўненых.

Шматлікія найпрыгажэйшыя кімано, якія падобныя на карціны, вытанчаныя ўзоры на паясах ("обі"), нэцке, макеты старажытных замкаў Японіі, традыцыйныя японскія лялькі, так непадобныя на нашы, рэчы чайнай цырымоніі і шмат чаго іншага — у адной залі музея.

Дакрануцца да іншай культуры заўсёды цікава, бо можна параўнаць сваё і чужое. Японія і Беларусь такія непадобныя, здаецца, краіны, але і яны маюць шмат агульнага. Тая ж талерантнасць беларуса, павага яго да роднай зямлі, што корміць, да прыроды — усё гэта ёсць у фальклоры, у літаратуры, у культуры нашага народа. Успомнім тое ж садоўніцтва і лекарства Скарыны, працы Абдзіраловіча і Ластоўскага, хайку Разанава... Яшчэ больш нас паяднаў Чарнобыль...

Людскасць — вось агульнае для ўсіх, хто можа разумець сэрцам. І хай я жыву ў Беларусі, а ты ў Японіі, мы ўсё адно разумеем адзін аднаго. Праз прыроду, праз думкі, праз сэрцы... Праз бяду і радасць... І, канечне, праз мастацтва...

Юры ЧАРНЯКЕВІЧ

Уладзімір ЛІПСКІ

# аўцюкоўскія падколкі



•

Суседка суседцы:

— Ох, Манька, мы сёння са сваім ваявалі ў хаце.

— Чыя ўзяла?

— А-а, толькі пыл да столі паднялі... Так змарылася, што пайшла за хлеў, села і павалілася.

•

— Кажуць, ваш Васіль кулаком быў.

— Аге, буў кулак, бо на кулаку спаў. На падушцы — толькі па святах.

•

Сын склаў спіс гасцей, якіх хоча запрасіць на сваё вяселле. Паказвае бацьку, той дае параду:

— Гэтага пакінь... Гэтага зачаркні... А гэтага — ваабшчэ вычаркні....

•

Дзядзька, твой трактар па-дурному лапоча.

— А ён, каласок, цябе перадражнівае.

Тры аўцюкоўцы заспрачаліся, у каго лепшыя яблыкі выраслі:

— Я свой яблык паклаў на лаўку — зламалася.

— А я паклаў на стол, дак стол рухнуў.

— Хлопцы, я свой яблык паклаў на воз, дак з яго вылез чарвяк і каня з'еў.

Хвалькі адбрыюць любога:

— Не падабаецца — не слухай, а брахаць не мяшай.

•

Прыходзіць аўцючка да дырэктара саўгаса, просіць:

— Дай, Іванавіч, паўмеха торфу.

— Чаму так мала просіш?

— А як хто замерзне, я ўзвалю яму на плечы гэты торф. Пабегае вакол хаты, пагрэецца...

Кажуць, дырэктар выпісаў Маньцы цэлую машыну паліва, каб па яе метадзе грэўся ўвесь пасёлак.

•

Дзед чытае газету дагары "нагамі". Унук пытае:

— Што ты там вычытаў?

— Хочаш не хочаш, каласок, а галасаваць трэба ісці.

•

Аўцюкоўскі шафёр распавядае сябрукам на мехдвары:

— Каб міліцыянер не адчыніў дзверцы, каб я не выкуліўся з машыны, дак хрэн бы ён ведаў, што я п'яны...

Памаўчаў і дадаў:



— Па той дарозе болей не паеду, бо ў мяне передок слабы.

•

Люба, муж у якой даішнік, бярэ ў доўг грошы ў суседкі:

— Пазыч дванаццаць тысяч, калінка. Мой заўтра насвішча, я табе і вярну.

•

Ідзе Міша-аўцюк па Калінкавічах і пакланіўся міліцыянеру.

— Ты ж яго не ведаеш, — робіць заўвагу напарнік.

— А што, у мяне галава не адваліцца, а мянту прыемна.

•

У аўтобусе.

— Дайце месца цяжарнай жанчыне, — моцна абвяўляе маладая аўцючка.

— Па табе не відна, — сумняваецца адзін пасажыр.

— А ты хочаш, каб праз гадзіну ўжо было відна...

•

У аўтобусе мясцовага прызначэння.

— Вой, жанчына, вы ззаду вымазаны мелам.

— Што, срака?

— Як вы непрыстойна гаворыце.

— Ага, срака ёсць, а слова такога па-вашаму няма. У Аўцюках што ёсць, тое не схаваеш.

•

У аўцюкоўскім лесе Воўк сабраў усё звяр'ё, аб'яўляе:

— Дзве навіны хачу паведаміць — добрую і дрэнную.

— З добрай пачні, — прапанавала Ліса.

— Дык вось у чым яна. Людзі, каб не распаўсюджваўся між намі "спід", прыслалі цэлы грузавік прэзерватываў.

Усе ад задавальнення заляпалі лапамі па ствалах дрэў.

— А дрэнная, — пачаў Воўк, строга зірнуў на Зайца і падняў яго за вушы. — Во гэты хунвэнбін віламі выгружаў...

•

— Адчапіся, Коля, не лезь, бо я, па-першае, яшчэ нечапаная. А па-другое, у мяне пасля етага заўсёды галава баліць.

•

Аўцюк пра жыццё:

— Наш адзін касіў, касіў ды галавой у купіну ўтыркнуўся. Лёгкая смерць. Не кажыце мне





пра лёгкае жыццё. Хай будзе цяжкое, дак тут хоць нальюць.

•

Пра аўцюка-гультая:
— Гэта ж ён, каласок на печы ляжаў і адмарозіў пальцы. У маёй задніцы цяплей, чым на яго печы. Ён жа на вяселлі ледзь з голаду не памёр, ленаваўся жаваць.

•

Піша аўцючок пісьмо бацькам з дзіцячага лагера:
"Я па вас вельмі сумую, але мне весела..."

•

Аўцюкоўскія філосафы:
— Мужык з грашыма — кавалер.
— А без грошай?
— Самец.

•

— У чым бабскае шчасце?
— Калі сыты побач. Галодны мужык — ліхі звер.

**Інвалід Максім прыдумаў прыпеўку:**
**Харашо таму**
**жывёцца,**
**У каго адна нага.**
**І сапог нямнога**
**рвёцца,**
**І парцяначка адна.**

•

— Галаву навошта маеш?
— Я ў яе ем.

•

Ганна ідзе з магазіна, нясе дзве цяжкія сумкі. Следам крочыць Іван і кажа:
— Ганна, табе, мусіць, цяжка?
— Ага, нялёгка.
— От, Ганна, каб я не быў у водпуску, то падмог бы табе.

•

Пажаніліся ў Аўцюках старыя.
Праз тыдзень выходзіць маладая на вуліцу. Суседкі збегліся. Адна дый кажа:



**Аўцюк старшыні сельсавета:**
**— Калі твая пастанова не адпавядае букве закона, то я цябе на гэтую букву і пашлю...**
**— Куды?**
**— З Аўцюкоў не відаць.**

— Стэфка, ты нейкая сумная. Мо цяжка спала? А можа, у яго не гаўкае?
— Гаўкаць гаўкае, Райка, але ж з будкі не вылазіць...

•

— Вой, бабы, цяперашніх мужыкоў адразу і не раскусіш.



Пінжакі доўгія носяць, штаны — шырокія. Не відно, як яны да нас адносяцца... Давайце, калінкі, вып'ем за сапраўдных арлоў, якія могуць і за сябе пастаяць, і за другіх паляжаць.

•

-- Марыя, збірайся, пайшлі на ферму, спазнаемся.
-- А што мне збірацца. Закрыла рот і пайшла.

•

Айцюк зайшоў да суседа і кажа:
-- Іван, давай вып'ем твайго віна.
-- А тваё дзе?
-- А пра сваё я табе проста раскажу.

**Аўцюк-заполец расказвае, як ён першы раз у жыцці выпіваў:**
**— Слухай, каласок, ды саабражай. Каўтануў, а яна з рота хацела выйсці, дык я рот рукой прыкрыў. Дак яна — праз нос. Я нос зацісную. Дак яна — праз вушы. Дак я пальцам во етымі вушы пазатыкаў... Не паказаў моды, і па той час!**



літаратурны квартал

# ВІНШУЕМ

3 ліпеня адсвяткаваў свой 85-гадовы юбілей пісьменнік Іван МЯЛА — навуковец і празаік. Нарадзіўся ён на Браншчыне. Закончыў ветэрынарны тэхнікум, служыў у арміі, ваяваў. Вучыўся ў Ваенна-ветэрынарнай акадэміі, скончыў Маскоўскі заалветэрынарны інстытут. Працаваў урачом, быў выкладчыкам, а потым дырэктарам Старадубскай міжраённай калгаснай школы. Пасля аспірантуры (Масква, Усесаюзны інстытут эксперыментальнай ветэрынарыі) абараніў кандыдацкую дысертацыю. Затым працаваў у Далёкаўсходнім навукова-даследчым інстытуце ў Благавешчанску (Амурская вобл.), у Беларускім ветэрынарным навукова-даследчым інстытуце, у лабараторыі энтамалогіі і пчалярства Беларускага НДІ эксперыментальнай ветэрынарыі. Кавалер ордэна Айчыннай вайны, мае іншыя ўрадавыя ўзнагароды.

Вучыўся на аддзяленні прозы Літінстытута імя Горкага ў Маскве. З нарысамі, замалёўкамі, апавяданнямі выступае ў друку пачынаючы з 1940-х гадоў. Піша пра гістарычнае мінулае Беларусі, сучасныя праблемы. Аўтар аўтабіяграфічнай аповесці "Каранцін", у якой распавёў аб сваім знаёмстве з такімі вядомымі асобамі, як В. Шклоўскі, Ю. Алешка, В, Катаеў. Напісаў некалькі п'ес. Творы І. Мялы — на дзвюх мовах: беларускай і рускай. Кнігі выйшлі ў Расіі і ў Беларусі: нарысы "Нижневские животноводы", "Стародуб", "Горит в степи маяк", п'еса "Дело чести", аповесці і апавяданні "Натенькины смотрины", раманы "Низовские партизаны", "Верность" "Раскол", "Искушение Гарпины", "Повстанцы", "Принада" і "Овсяный бунт". Віншуючы Івана Ільіча з юбілеем, жадаем яму і надалей здароўя і творчых поспехаў.

•

6 ліпеня было 80 гадоў Валянціну ПАНАМАРОВУ — празаіку, нарысісту. Ён нарадзіўся ў Маскве, быў курсантам Серпухаўскай школы авіямеханікаў, слухачом Ваенна-паветранай акадэміі імя Жукоўскага. Навучаўся ў Маскоўскім інстытуце міжнародных адносін, працаваў у газеце "Правда". Быў карэспандэнтам "Правды", "Известий", "Огонька" па Беларусі, памочнікам першага сакратара ЦК КПБ. Кіраваў групай палітаглядальнікаў Дзяржтэлерадыё БССР, уласны карэспандэнт "Литературной газеты" ў Беларусі. Неаднаразова ўдзельнічаў у рабоце сесіі Генеральнай Асамблеі ААН. Узнагароджаны ордэнам "Знак Пашаны".

Літаратурнай дзейнасцю займаецца з 1946 года. Першы нарыс надрукаваў у газеце "Правда". Напісаў шэраг партрэтаў сучаснікаў, дакументальную аповесць "Ідалінскія роздумы", сцэнарыі дакументальных фільмаў, успаміны пра П. Броўку, А. Кулішова, М. Лынькова, П. Пестрака. Выдаў кнігі "Партизанские годы Орловского", "На волнах жизни: Очерки и зарисовки" і інш. Піша апавяданні, рэцэнзіі, нарысы. Паводле яго сцэнарыя ў 1969 годзе быў зняты дакументальны фільм "У агні жыцця".

Віншуючы Валянціна Георгіевіча з юбілеем, жадаем яму здароўя, творчага неспакою і плёну.

# БЫЛО Б 65

5 ліпеня споўнілася б 65 гадоў Уладзіміру Машкову — празаіку, дзіцячаму пісьменніку. Ён пісаў на дзвюх мовах, многа твораў прысвяціў жыццю дзяцей, іх прыгодам: аповесці "Как я был вундеркиндом", "Соскучился по дождику"... Аўтар літаратурных рэцэнзій, сцэнарыяў, перакладаў на рускую мову з беларускай творы З. Бядулі, С. Александровіча, В. Гарбука, Г. Васілеўскай, У. Юрэвіча, А. Васілевіч, У. Караткевіча, У. Чорнага, У. Мехава, У. Краўчанкі, Я. Лецкі, Н. Маеўскай і інш. Выдаў шмат кніг прозы для дзяцей і пра дзяцей ("Между "А" и "Б"), "Веселая дюжина", "Здравствуй, Валерка", "Соскучился по дождику", "Последний день матриархата", "Детское время"...

Закончыў факультэт журналістыкі Белдзяржуніверсітэта. Працаваў у газеце "Зорька", на Беларускім радыё. Вучыўся на Вышэйшых сцэнарных курсах у Маскве. Быў сцэнарыстам на студыі "Беларусьфільм", рэдактарам выдавецтва "Беларусь", старшым рэдактарам выдавецтва "Мастацкая літаратура" загадчыкам рэдакцыі літаратуры для малодшага школьнага ўзросту выдавецтва "Юнацтва". Працаваў у часопісе "Нёман". П'еса "Як я быў вундэркіндам" (у сааўт. з А. Вольскім) пастаўлена Беларускім рэспубліканскім тэатрам юнага гледача ў 1986 годзе.

**6. Прадметнасць.**

Творы Лайкова выйграюць на фоне вершатворчасці многіх таксама і "прадметнасцю". Ёсць такое паняцце, як беспрадметная размова. У творах многіх аўтараў менавіта гэта і адбываецца: запісваюцца ў форме верша нейкія думкі, асацыяцыі, часта малацікавыя альбо зусім нецікавыя, якія могуць расцягнуцца і ў вянок вянкоў санетаў. У зборніку Лайкова такога амаль не сустракаецца: у большасці ягоныя творы — пра нешта, аб нечым.

**7. "Балоты".**

Як ужо зазначалася, у шмат якіх творах Лайкова "цяжкі" радок. Словы нібыта збітыя адно да аднаго. Некаторыя радкі нават трохі складаныя для вымаўлення. Думаю, аўтару варта звярнуць на гэта ўвагу.

Асноўная загана, якая мае месца ў зборніку, — "словаблудства", між іншым, некалькіх відаў:

**1. Словаблудства як такое.**

Гэта калі напісанае нагадвае камяк зблытаных нітак, з якога, нібы нітку, трэба выцягваць сэнс (калі ён там ёсць).

*А кволае адхланне*
*зваротным поклічам гучыць,*
*імкнецца ў роспачнае царства*
*забытых мрояў.*

Альбо:

*Занядбаныя словы далёкіх дрэў*
*У прымроеных раптам уражаннях*
*не знайшлі свайго скону.*

**2. Вершатворы сумніўнага зместу.**

*Вочы загінуць там,*
*дзе не будзе мяне заўтра,*
*Крылы згараць там,*
*дзе не будзе мяне заўтра.*
*Я застануся там,*
*дзе не будзе мяне заўтра.*
*Я — Вольны Птах.*

Калі пачаць разбірацца з вачыма, крыламі, самім Птахам, і тым, дзе ён будзе "заўтра" і дзе яго не будзе пасля — справа можа скончыцца галаўным болем.

*Прачынайся,*
*маімі песнямі закалыханая,*
*пойдзем верасовымі пусткамі*
*да крыніц,*
*пойдзем, там —*
*душ нашых неруш.*

Нашых душ "неруш" альбо не "неруш" не можа быць ні ля крыніц, ні дзе-небудзь яшчэ — толькі ў нас саміх.

*Ты жадаеш убачыць аблічча свабоды,*
*што расхрыстанай плоццю кладзецца*
*на дол.*

Хіба "аблічча свабоды" — гэта тое, што "расхрыстанай плоццю кладзецца на дол"?

**3. Радкі, прачытаўшы якія хочацца сказаць, як Станіслаўскі: "Не веру".**

Час змарнеў і знямеў
злою думкай маёю зняважаны.

Насамрэч часу ўсё роўна, што думае Я. Лайкоў і лірычны герой яго твораў.

*То — анёл у рыззі*
*свечку трымае,*
*забытую праўду Хрыстовую*
*знае.*

Чаму праўда Хрыстовая "забытая"? Яна выкладзена ў Новым Запавеце, які прадаецца ледзь не на кожным кроку.

**4. Супярэчанне самому сабе.**

*І мы з табою — як браты,*
*і душам нашым разам млосна.*

Калі іх душам разам млосна, то якія ж яны "браты"?

**5. Іншае.**

*Апошнія кроплі расы*
*прыгожай да болю раніцы*
*усё даравалі ўсім,*
*аддаўшы ахвяру памяці.*

Хто вінаваты перад расой? Хто яе пакрыўдзіў?

*І недзе забыты крок*
*гучаў у пакоі сцішана...*
*Як можа забыты крок гучаць?*
*Быць ці не быць паэтам*
*на Беларусі —*
*вось у чым пытанне.*
*Куды паляцеў беларускі бусел —*
*у вырай або ў выгнанне?*

У першых трох радках, можа быць, і ёсць слушнасць, у сэнсе: пісаць па-руску ці па-беларуску. А наконт беларускага бусла, то ён паляцеў на поўдзень, бо мясцовы клімат не дазваляе яму заставацца на ўвесь год.

Я. Лайкоў таксама аддаў даніну пашаны беларускай літаратурнай традыцыі, бо словы "гора", "бяда", "злыбяда" з канца XIX ст. з беларускай паэзіяй неразлучныя.

*Мо не варта казаць пра бяду,*
*бо ўсё роўна ніводзін з нашчадкаў*
*злых гадоў не супыніць хаду*
*і не зменіць адвечных парадкаў.*

Мо і насамрэч не варта. Ну чаму гады абавязкова "злыя"? А пачынаўся верш так прыгожа.

*У тваіх валасах — каласы.*
*Сумна, сумна, мая багіня.*

Напрыканцы рэцэнзій прынята штосьці жадаць паэту. Я б пажадала Янку правесці "меліярацыю" ў сваёй творчасці.

**Наталля КАПА**




# ЗАЧАРАВАННЕ СКОНАМ

***К**нігу вершаў Янкі Лайкова "Вогнепаклоннік", якая выйшла ў гэтым годзе ў выдавецтве "Мастацкая літаратура" ў серыі "Дэбют", наўрад ці можна дэбютам назваць. Трыма гадамі раней у "Бібліятэцы часопіса "Маладосць" у маладога паэта ўжо выдаваўся зборнік "Логіка пасткі". Нямала вершаў з "Вогнепаклонніка", у тым ліку і той, што даў новаму зборніку назву, можна было прачытаць у маладосцеўскай кніжачцы. Таму, разважаючы пра новае выданне, непазбежна давядзецца ўзгадваць і ранейшае, ды іх параўноўваць.*

*Там было — 95 твораў, тут — 86. Нешта, прычым не самае слабое, знікла. У той жа час засталіся рэчы, хоць і знакавыя, але з заўважнай неахайнасцю ў рыфме: "столі — поўні", "сляза — харас-*

*Уявіць Лайкова, напрыклад, на пасяджэнні лімаўскага "Літаратурнага квартала" я не магу — яго паэзія абсалютна не тусовачная. Яго вершы наўрад ці могуць быць выкарыстаны рок-гуртамі ці спявацца ў моладзевых вандроўках і летніках. Затое, добра, напэўна, прагучаць у нямецкім ці гішпанскім перакладзе, як у нашмат старэйшага Алеся Разанава. У Лайкова разанаўшчына (нерыфмаваныя філасофскія вершатворы) займае ладны кавалак творчасці. Звярнуўшыся ў дваццаць чатыры гады да асноўных пытанняў жыцця, а пэўныя радкі падказваюць, што шлях да гэткага выбару прайшоў праз нейкую сур'ёзную жыццёвую драму, а мо і трагедыю ("...прымроюю раптоўна: то душа твая беспрытульная вусціш дратуе: "Ратуй мяне"..."), паэт адмовіўся ад*

*тва" ("Маці"). Новыя вершы старых "ляпаў" амаль пазбаўленыя (амаль, бо нельга назваць удалымі спалучэнні кшталту "сваіх — чужых"), адчуванне трагічнасці ўзрастае. Шмат філасофскіх пытанняў, на якія адказ паэт намагаецца даць тут жа.*

*Часам узнікае жаданне правесці паралелі творчасці Янкі Лайкова і Максіма Багдановіча. У абодвух праз бацьку адбылося далучэнне да пісьменніцкага асяродку, абодва з прычыны бацькавай жа апекі аказаліся пазбаўлены брыдкай неабходнасці мяшаць узвышанае з прыземленым, абодва, урэшце, абралі падобную сістэму вобразаў.*

*У "Логіцы пасткі" немалое месца займала тэма кахання. Цэнтральныя вобразы новага зборніка — Бог, смерць, холад, адзінота, птах і вецер — месяц, які канае. На іх падставе няпроста вызначыць, у якіх жа мясцінах падобная паэзія магла быць створана. Але магчыма. Адназначна, што гэта не можа быць горад — гарадская паэзія непазбежна забруджана непрывабнымі пахамі ды рэчамі і ўтрымлівае ў сабе элементы сметніцы. У вершах Лайкова смецця няма — ні ў прамым ні ва ўскосным выглядзе. Гэта не можа быць Беларусь Заходняя — там занадта праяўляецца ды пераплятаецца з жыццём свет матэрыяльны. Янка ж, падобнае, не звяртае на яго аніякай увагі. Гэта не можа быць Беларусь Усходняя — інакш прысутнасці русізмаў у вершах ці, наадварот, адвадочных спробаў без русізмаў абысціся, пазбегнуць не атрымалася б. Гэта не можа быць замежжа — прыкмет адарванасці ад роднай зямелькі ў тэкстах не назіраецца. Такім чынам, геаграфічная прывязка да вёскі ў цэнтры Беларусі, нягледзячы на адсутнасць прамых узгадак пра гэта, робіцца заканамернай.*

*У параўнанні з папярэднім зборнікам, вершы другога крыху карацейшыя, паэт падае думкі больш канцэнтравана, менш пачуццёва. У "Логіцы пасткі" лірычны герой па-юнацку кідаецца ў розныя бакі, герой "Вогнепаклонніка", падаецца, лічыць, што ведае свой шлях. Аднак, ці ведае сапраўды, гэта пытанне спрэчнае. Хутчэй, ён вызначыў сваё прызначэнне.*

*натуральнага для многіх банальнага напрамку ў крыху наіўны свет непадзеленага кахання, адраджэння гістарычнай памяці і мовы, міжасабовых канфліктаў і маленькіх побытавых радасцей, у якім шмат хто з калег знаходзіць невычарпальную крыніцу для творчасці.*

*Хаця асобныя вершы ("Паэту", "Маналог", "***Не плач, паэт...") нагадваюць таленавітую ці то пародыю ці то падробку на грамадзянскую лірыку адышоўшых класікаў. Лайкоў адбыўся як паэт, таму яго далейшы чалавечы лёс інтрыгуе і непакоіць.*

*Там, унутры,*
*Таксама ёсць сонца,*
*Якое, адчуваю, згасае.*

*Радкі, якія мог напісаць Багдановіч, але паэзія Максіма — у значнай ступені зачараванне дахрысціянскімі і пазахрысціянскімі вобразамі (была ў ім, вядома, "Вострая Брама святая", тым не менш); паэзія з Янкі — псеўдапаганская, яна мае адзінага Айца ды Святога Міколу і стаіць перад адкрыццём Хрыста, прынамсі "праўда Хрыстовая" ў ёй ужо ёсць. Багдановіч быў знакавай асобай Беларусі імперскай і сышоў з жыцця амаль разам з імперыяй. Лайкоў знакавай асобай сучаснай Беларусі яшчэ не стаў, але ўзровень таленту і скіраванасць такое яго наканаванне падказваюць. Такім чынам, хаця б у двух момантах роля Лайкова невыкананая. Хто ж ён у будучым: манах, святар, філосаф ці чыноўнік дзяржаўнай установы?*

*Безумоўна, добрых слоў заслугоўвае мастацкае афармленне зборніка (А. Цароў, мастацкі рэдактар М. Шкурпіт). Вокладка заварожвае. Фотаздымак паэта звяртае ўвагу падабенствам на маладога Анатоля Сыса. Хіба што жыццё складваецца па-іншаму, пэўна ж, іншым, чым у "Гарошкаўскага самародка" будзе і яго працяг.*

*Развагі пра кніжачку "Вогнепаклоннік" карціць скончыць банальным аптымістычным тостам: каб не апошняя! Гэтак і раблю.*

***Андрэй МЕЛЬНІКАЎ***

# АГОНЬ ПАЭЗІІ

***Яшчэ са старажытных часоў адна з магутнейшых стыхій прыроды – агонь вабіла да сябе, цягнула, асляпляла, натхняла і... карала людзей. Агонь часта атаясамліваўся з Вышэйшай Жывой Сілай, з Богам. І нездарма ж ён стаўся своеасаблівым ідалам свядомасці шматлікіх народаў на працягу доўгіх часоў... Легенды, паданні, казкі пра агонь занатоўваліся ў вуснай і пісьмовых формах. І таму Паэзія ўвабрала ў сябе ўсю моц, непакору, прыгажосць і шаленства гэтай Стыхіі, а паэты, якія апявалі і апяваюць Агонь – міжволі сталі вогнепаклоннікамі. Тое ж можна сказаць і пра Янку Лайкова, у творчасці якога Агонь займае адно з галоўных месцаў, таму невыпадкова паэт абраў для новай сваёй кнігі назву "Вогнепаклоннік".***

**Д**ля чытача, які знаёмы з творамі аўтара па публікацыях у рэспубліканскім друку, выхад у свет "Вогнепаклонніка" – сапраўднае свята. І гэта не пафасныя словы, бо той ранейшы агонь паэзіі Янкі Лайкова ўзнёсся да полымя. Вытанчанасць і характво вершаваных формаў, натуральнасць і свежасць гучання радкоў, сэнсавая напоўненасць "міжрадкоўя", вобразны і непадобны да іншых паэтычны свет аўтара, метафорыка "чаканай нечаканасці", а да ўсяго – агонь любові да Слова, да прыроды, да Радзімы, да кахання... Агонь, у якім наканавана паласць і ў рэшце рэшт згарэць паэту... Усе свае эмоцыі, пачуцці, адчуванні, уражанні Янка Лайкоў перадае праз вогнелікае слова:

*Праз гады, праз вякі*
*я цябе чую, Слова,*
*ты гарыш, ты трымціш,*
*ты – аснова.*
*І калі ў сэрцы боль,*
*і калі пашанота,*
*час сустрэчы з табой –*
*насалода.*

Слова – Дух паэзіі. Менавіта з яго пачынаюцца вытокі таго Агню, які асляпляе, спапяляе і натхняе Я. Лайкова.

Паэтычны зборнік "Вогнепаклоннік", выдадзены "Мастацкай літаратурай," з'яўляецца своеасаблівай кнігай выбранай лірыкі паэта, паколькі поруч з новымі творамі ў кнізе змяшчаюцца і тыя, якія друкаваліся раней, у прыватнасці ў першай яго кніжцы "Логіка пасткі", што пабачыла свет у серыі "Бібліятэка часопіса "Маладосць". І гэта спрые больш арганічнаму і цэласнаму ўспрыманню лепшага з напісанага паэтам..

Чытач, безумоўна, не без цікавасці пазнаёміцца з імкненнем творчага агню Лайкова ад стомленага розуму да веры, да філасофскіх абагульненняў і ўзвышэння кахання праз быццё адзіноты (вершы "...Невідушчыя вочы...". "Зніякавелы, Стаю...". "Я дарма не імкнуся да веры...", "Крывёю срэбнай маладзік бруе...", "Вежа маёй адзіноты", "Валасы Веранікі" і інш.)

У кнізе "Вогнепаклоннік" шмат вершаў і на тэму грамадства, прыроды і тэхнікі, рэлігіі і міфалогіі. Удумлівы чытач знойдзе ў зборніку матывы Г. Лоркі, Б. Пастэрнака, Янкі Купалы, М. Багдановіча, Р. Барадуліна, якія, аднак, не сталі перастварэннямі на свой лад, а па-мастацку пераасэнсаваныя паэтам, паслужылі стартавай пляцоўкай для ўласнага палёту. Адным з такіх вершаў, на маю думку, з'яўляецца "Маналог падбітага птаха", у якім птушкі, збіраючыся ў вырай, не бяруць з сабой падбітага птаха, і ад таго ў яго "на сэрцы так балесна і палынна, і так нясцерпна вабіць неба сінь..." Сімвалічна, але не безнадзейна... Так і ўся вогненная паэзія Янкі – у сімвалічным роспачным крыку да тых, хто паляцеў у вырай, і з надзеяй на тое, што "святло разліецца. І морак адступіць у ноч."

**Павел ГАСПАДЫНІЧ**

# ХАРАСТВО ПАЭТЫЧНАЙ ДУШЫ

У музеі Нацыянальнага навукова-асветнага цэнтра імя Ф. Скарыны пры мінадукацыі РБ адбылася творчая імпрэза беларускай паэткі, ураджэнкі Брэстчыны Алены Ігнацюк. На вечарыне прысутнічалі дырэктар ННАЦ імя Ф. Скарыны Л. Уладыкоўская-Канаплянік, пісьменнікі Н. Гальпяровіч, М. Шавыркін, С. Багданкевіч, М. Наталіч, мастачка Н. Фяцісава, навуковыя супрацоўнікі цэнтра Л. Кулажанка, Э. Дубянецкі, У. Шаставец, а таксама іншыя шматлікія аматары паэзіі. Шчырым пачуццём і творчай самабытнасцю вызначаліся паэтычныя радкі, якія прагучалі ў гэты вечар у сценах музея. Ці ж не праўда: далёка не кожны захоўвае здольнасць, уласцівую маладосці, — захапляцца цвіценнем ліп і акацый, верыць, што лепшае ў цябе яшчэ наперадзе... Паэтам мала нарадзіцца, паэтам трэба ўмець заставацца і ў самыя цяжкія часы жыцця. Таму плёнам вечарыны для тых, хто ўдзельнічаў у ёй, стаўся роздум аб прызначэнні і ролі паэзіі ў нашым будзённым жыцці.

С. Я.

# АМАТАРАМ АЙЧЫННАЙ ФАНТАСТЫКІ




Ім, напэўна, спадабаецца раман-антыказка "Жизнь прекрасна..." Андрэя Бацюлёва, выдадзены сёлета ААА "Белпринт". Як і звычайна ў фантастычных творах, уяўныя рэаліі, створаныя аўтарам, у ім — не самамэта, а толькі фон, прыдатны для філасофскіх разваг на розныя тэмы. У дадзеным выпадку аўтара рамана хвалюе праблема сэнсу жыцця. Пражыць яго сумленна ці не — гэтае пытанне даводзіцца вырашаць кожнаму. Героі А. Бацюлёва вельмі актыўныя ў сваім пошуку адказаў на важныя надзённыя пытанні. Часам яны рызыкуюць сваім жыццём, уступаюць у дыскусіі, рашуча дзейнічаюць... Фантазія аўтара вядзе чытача па цёмных лабірынтах змагання паміж дабром і злом, праўдай і хлуснёй. У рэшце рэшт героі вызваляюцца з палону сваіх няправільных уяўленняў і робяцца моцнымі, загартаванымі, непахіснымі ў барацьбе за агульную будучыню.

С. Я.



**Алесь БАДАК**



## ЦЯГНІКІ

*Гэта вёска, як два цягнікі,*
*Што стаяць на прыпынку*
*забытым,*
*На мяжы цішыні і нябыту,*
*Не чаканыя болей нікім.*

*Тут гады пралятаюць, як міг,*
*І не помняць даўно пасажыры –*
*Нібы ў памяць закінуты вірус!*

*Хто куды накіроўваўся з іх.*

*Тут ранейшая цяжка пазнаць,*
*Бо травою аплецены рэйкі,*
*У вагонаў павырaслі стрэхі –*
*Як бяспамяцтва нашага знак.*

*Зрэдку ўбачыш над імі*
*дымкі, —*
*Быццам часу працівяцца*
*гены, —*
*І падасца: вось зрушацца*
*сцены,*
*І далей паляцяць цягнікі.*

*

*Сюды ўжо і сонца нараніцу*
*позніцца,*
*Тут месяц, бывае, не ўзыдзе*
*ніяк.*
*— Усё абяцанае некалі*
*споўніцца, —*
*Прамовіў мудрэц, што хадзіў,*
*як жабрак.*

*І сталіся словы яго*
*Запаветам.*
*І я паўтару іх, і ты.*
*Спаўняюцца ўсе абяцанні*
*на свеце.*
*Калі не на гэтым, то*
*значыць – на тым.*

## У НАВАЛЬНІЦУ

*Машыны баяцца грымотаў.*
*Такія яны дзівакі.*
*Стаяць ля пад'ездаў і мокнуць,*
*То зноў заскуголяць,*
*то змоўкнуць,*
*Як кінутыя шчанюкі.*

## СЕНТЫМЕНТАЛЬНАЕ ПРЫЗНАННЕ

***Как любимую сделать счастливой?***

Я. Еўтушэнка

*Пагляджу ў твае сумныя вочы.*
*Чым развеяць нямую тугу?*
*Я зраблю для цябе ўсё,*
*што хочаш,*
*А шчаслівай зрабіць – не змагу.*

*Не таму, што я бедны,*
*як вецер.*
*І характар мой тут*
*ні пры чым.*
*А таму, што на ўсім белым*
*свеце*
*Не бывае шчаслівых жанчын.*

*І калі вы гаворыце шчыра,*
*Што нічога не трэба*
*вам больш,*
*Дзе знаходзіце, Бог мой,*
*прычыны,*
*Каб сябе – і не ставіць*
*ні ў грош?!*

*Калі б змог я да ног*
*тваіх кінуць*
*Усю радасць зямлі – і тады*
*Я б ад жалю пакутнага гінуў,*
*Не таму, што другім*
*не пакінуў,*
*А што большага вартая ты!*

*

*Кахання залатая зорка*
*Разбілася ў начной цішы.*
*І разляцеліся асколкі*
*Не па зямлі,*
*А па душы.*

*І асвяцілі ўсё, што можа*
*Душа хаваць у закутках...*
*Ды што магло ў ёй быць,*
*Мой Божа?! --*
*Туга і боль,*
*Адчай і страх...*

*

*Белы свет*
*калыхаўся,*
*То ўзнікаў,*
*то знікаў.*
*Я да неба*
*ўздымаўся,*
*Ды анёлам не стаў.*

*Не змяніў сваю*
*долю,*
*Як у песні –*
*прыпеў.*
*Не таму, што*
*не здолеў,*
*А што сам*
*не схацеў.*

*Бо нябесную воляй*
*Даражыў я заўжды.*

*Колькі крыўдаў*
*і болю*
*Ты сцярпела тады!*

*Павышэлі нябёсы,*
*Пацяжэла крыло.*
*Твае высахлі слёзы,*
*Быццам і не было.*

*Ды хаджу невясёлы,*
*Жаль у сэрцы пячэ.*
*— Божа, хоць бы анёлам*
*Дай палётаць яшчэ!*

*

А. Б.

*Жанчына — у трынаццаць,*
*Дзяўчо — і ў дваццаць сем.*
*Па свеце лёс у танцы*
*Цябе, як ліст, нясе.*

*То кіне ў рукі тому,*
*То гэтаму шпурне.*
*Не жалішся нікому.*
*Мяняешся ў цане.*

*Лісток, лісток, лісточак,*
*Ляці, ляці, ляці*
*Над прорвай дня і ночы*
*Нястомна па жыцці.*

*Ляці, не падай хутка,*
*Паблытаўшы на міг*
*Пасцелі вір бялюткі*
*З бялюткасцю зімы.*

## РУЧНІК

*Ручнік не церпіць бруду.*
*(Хвала ўсім дзівакам!).*
*Пакуль на працы буду,*
*Памые посуд сам.*

*Ах як дарэчы гэта,*
*Нібы ён ведаць мог,*
*Што сёння з краю свету*
*Ты вернешся дамоў.*

*Ты, што сама не церпіш,*
*Калі на кухні бруд,*
*Яе паглядам сцепліш,*
*Прамовіш:*
*— Проста цуд!*

*Ды на сцяне заўважыш*
*Ручнік працёрты ўвесь*
*І скрывішся, і скажаш:*
*— Вазьмі*
*Другі*

*Павесь.*



# ДАЛАКОПЫ

## АПАВЯДАННЕ

**Міхась ДАНІЛЕНКА**



Клады знаходзіліся недалёка ад Выселкаў. Да іх вялі дзве дарогі. Адной карысталіся сяльчане даволі рэдка; яна зарасла кустоўем альхі, траплялася нават лаза: вакол былі балоцістыя мясціны. Другая вяла ў абход да лесу, дзе на ўскрайку на вышэйшай пясчанай выдме, пад соснамі і дубамі, і месціліся могілкі.

Сёння з самай раніцы сярод крыжоў корпаліся двое. Адзін — цыбаты, у падняразанай вайсковай дзягай ватоўцы. На галаве — вязаная шапачка з пампонам. У навакольных вёсках яго клікалі Манахам. А па пашпарце ён зваўся Міхайлам. Другі — тоўсценькі, з азызлым чырвона-шызым носам, Рыгор. Абодва былі з бліжняй ад Выселкаў вёскі, дзе іх убачыў Іллёў Федзька і дамовіўся выкапаць яму для вечнай дамоўкі Іллю — яго бацьку. Сам Ілля ўжо каторы год не зімаваў у Выселках: у Гомелі меў кватэру і прыязджаў у родную вёску толькі, калі добра ўбіралася ў сілу вясна. Ды, мусіць, цяпер вось пераселіцца сюды, дзе спрадвеку ў зямлі ляжыць яго амаль увесь род, назаўсёды.

Манах са злосцю дзёўб рыдлёўкай зямлю і ў думках праклінаў сябе, што згадзіўся на ўгаворы Федзькі і гэтага таўстуна Рыгора ісці капаць яму.

— Замёрзла ўсё на цэлы метр, — плюнуў ён і, адставіўшы рыдлёўку, пасігаў да каплічкі, што тулілася на ўскрайку могілак. Ён без натугі выцягнуў з вушака прабой, адкінуў замок, што трымаўся на ланцужку, і пераступіў парог. На Міхайлу патыхнула сырасцю, прэллю — гэтыя пахі нават не выветрыліся за доўгую зіму. У кутку капліцы ля сцяны тырчэла некалькі харугваў і іржавы лом. Манах узяў яго і хутчэй выбраўся са спарахнелай будыніны.

— А праўда? Казалі, як некалі Ілля тут верхаводзіў у сельсавеце, дык загадаў зруйнаваць гэтую капліцу? — прыстаўляючы лом да ствала сасны, запытаўся ён у Рыгора.

Той выпрастаў спіну, абцёр тлустыя губы (Манах падазрона пакасіўся: здагадаўся, што той, пакуль ён хадзіў па ломік, паспеў адпіць з бутэлькі, прыхаванай у бліжнім кусце) і неахвотна буркнуў:

— Мусіць, праўда. Але тады ўсе каркалі, што рэлігія – опіум для народа.

Нейкі час пасля вайны, калі Ілля прыйшоў з фронту, ён тут хадзіў у актывістах. Спачатку вытрэбваў у вёсках з людзей налог, потым узначальваў калгас. Пасля — сельсавет. Ды пра тое, вядома, ні Рыгор, ні Міхайла не ведалі. Іх у тыя часы наогул не было на свеце. Гэта пасля ўжо жыхары Выселак расказвалі, як яно ўсё тут было.

Капліца стаяла спрадвеку. Збуцвелы крыж на яе гантаваным даху, што кожны год пакрываў тоўсты слой зялёнага моху, замянялі на новы. Выселкі заўсёды славіліся добрымі цеслямі і масцеравітымі людзьмі. Але ў трыццатых гадах многіх дамавітых гаспадароў, якія тут жылі, раскулачылі і выслалі. А пасля вырашылі знесці і капліцу, каб не збіраліся па святах каля яе багамольцы. Ілля (ён тады узначальваў сельсавет) хадзіў па хатах — агітаваў выселкаўцаў, каб па вянцы расцягнулі будыніну.

— На дровы сцены пойдуць, — угаворваў ён. — Тут бярвенні моцныя, а падмур наогул дубовы.

Але ніхто не згаджаўся бурыць капліцу. Тады Ілля загадаў бульдазерысту, што працаваў на бліжнім будаўніцтве, прайсціся раз-другі і разбурыць каплічку…

Ды вось жа, аказваецца, на тым яе век не закончыўся. Нейк непрыкметна капліцу адбудавалі. Праўда, тады ў вёсцы было яшчэ шмат дужых мужчын. Не так, як сёння: ледзь не ў кожнай хаце забітыя дошкамі накрыж вокны.

Манах расперазаў дзягу. І, цяжка вухкаючы, пачаў грукаць ломам у мёрзлы грунт. Дзіўна: здавалася, зіма стаяла не марозная, а ладны пласт зямлі прамёрз і не паддаваўся.

— На, пагрэйся ты, — перадаў ён ломік Рыгору.

Сам адышоў да куста, у якім яны прыхавалі дзве бутэлькі — гарэлку і віно — і дастаў зашмальцаваную торбачку. У яе ім Федзька, акрамя цыбуліны, паклаў і ладны кус сала. Спрактыкаваным вокам Манах адразу вызначыў: гарэлку з бутэлькі шызатвары Рыгор адпіў ледзь не трэцюю частку.

— Ну, але ж і спрытны ты, жмот, — нязлосна вылаяўся ён і адліў у шклянку рэштку гарэлкі. Спрытна кульнуў у глотку.

Гэтага маруду Рыгора Манах пабойваўся. Ведаў, што калі той пера п'е, дык чамусьці звярэе. Можа выцяць па галаве вось гэтым ломікам ці лапатай — тым, што на тую хвіліну трапілася пад руку. Няхай ён спрахне! Мусіць, з-за таго і жонка ад яго адчуралася. Сам Міхайла, калі надыходзіў запой, толькі спаў цэлымі суткамі — нават нічога ў рот не браў.

Рыгор абапёрся на лом і прагна сачыў, як ходзіць знізу-ўверх кадык на жылістай Міхайлавай шыі. Некалі ў Рыгора ў горадзе была сям'я. Ён нават працаваў прадаўцом у адной краме. Але пасля чарговай рэвізіі, калі выявілі значную недастачу (ужо тады Рыгораў нос па колеры нагадваў пераспелую слівіну), яму далі тры гады. Жонка з двума малымі дзецьмі як магла перабівалася з хлеба на квас — пацыху іх расціла. А калі Рыгор вярнуўся пасля адбыцця тэрміну, выгнала яго з кватэры. Колькі разоў п'яны ён бязлітасна яе біў; дзеці хаваліся ў суседзяў ад раз'юшанага, быццам чужога, бацькі. З тых пор ён і прыбіўся ў адну з бліжніх ад Выселак вёсак. Жыў там у пакінутай хаціне. Зрэшты цяпер для такіх, як ён і Манах, жытла хапала. Занось транты ў любую хату ды і абжывай яе.

Манах (ці Міхайла) таксама некалі меў сям'ю. Цяпер казалі, што дачка яго даўно выйшла замуж і нарадзіла блізнят. Але Манаха гэта мала хвалявала. Міхайла даўно стаў бамжом. Ён рэдка затрымліваўся ў адной вёсцы. Цяжка было, вядома, перагібець зіму. Манах працаваць адвык. Але калі з'яўлялася ахвота, дапамагаў нямоглым удовам ці нарыхтаваць дроў, ці пасадзіць вясной бульбу. Цяпер вось Рыгор падахвоціў яго капаць яму для таго Іллі, якога меліся прывезці з Гомеля недзе да трох гадзін дня.

— Кажуць: Федзька і папа дамовіў, каб нябожчыка адпявалі? — запытаўся Міхайла ў Рыгора.

Той перастаў дзяўбсці мёрзлы грунт і выцер успацелы лоб.

— А навошта Іллю той поп? Ён жа ніколі ў Бога не верыў.

Але гэта яго не хвалявала. Іллёў Фёдар паабяцаў далакопам добрую пачастку. Акрамя хаўтураў іх запросяць яшчэ і на дзевяціны, а мо і на саракавы дзень, калі толькі будуць адзначаць сумную для нябожчыка дату.

Аскепкі мерзлай зямлі разляталіся наўкол. Манах прысеў на кукішкі і моўчкі назіраў, як гахае ломам Рыгор у дол. Сам паволі пераждоўваў скіўцамі скрылік сала з хлебам (цыбуліну толькі грэбліва панюхаў) і сам сабе адзначыў, што гэты наўклюдны, тоўсты, бы мядзведзь, Рыгор наогул хоча на чужым гарбу забрацца ў рай. Вунь колькі ні гахае ломам у зямлю, а толку мала.

— Давай паднацісне, — падахвоціў ён сябра. — А то не паспеем нарыхтаваць Іллі дамоўку. Тады – не здабраваць.

— Цяжка, ліха яго, — прамармытаў Рыгор і зноў выцер рукавом з ілба пот.

— На, глытні, — адкаркаваўшы бутэльку віна, наліў у шклянку напоўніцу Манах Рыгору.

Той выпрастаў спіну, адкінуў у бок ломік і працягнуў да шклянкі руку. Манах з цікавасцю наглядаў, як асцярожна падносіў до сябе шклянку Рыгор — каб, крый, Божа, не праліць ніводнай кроплі на зямлю. І, смакуючы кожны глыток, адпіваў са шклянкі. Твар яго прыкметна пунцавеў, шчокі наліваліся чырванню, а маленькія, як у дзіка, вочкі жвавелі, пачалі, быццам упершыню, разглядаць бліжнія крыжы, капліцу на могілках.

Цяпер за працу ўзяўся Манах. Ён і сам не ведаў, хто даў іхняму роду такую мянушку. Было тое праўдай ці не, Але Міхасёў прадзед жыў нейкі час у манастыры пад Гомелем. (Яшчэ і зараз той раён, забудаваны пераважна ўласнымі дамамі, называюць Манастырком). Пасля ажаніўся, перабраўся жыць у іншыя мясціны — пад Ветку, дзе здавён атабарыліся старавeры, але яго дзяцей і ўнукаў пачалі называць манахамі. Так вось прыляпілася мянушка і да Міхася. Быў ён худы і доўгі, бы жардзіна. Над верхняй губой раслі рэдзенькія, бы ў прусака, вусікі. Манах іх употайкі песціў, адгадоўваў, але яны чамусці не гусцелі і толькі перашкаджалі зімой: кроплі з носа часам замярзалі на рыжых валасках. Міхайла дзёўб і дзёўб зямлю. І нарэшце, уздыхнуў з палёгкай: мерзлата прайшла. Зараз можна было брацца за рыдлёўкі.

— Ну, давай, браток, націснем, — выдыхнуў ён. — Хто ведае, каму давядзецца капаць яму, калі мы адкінем капыты? — задуменна запытаўся хутчэй сам у сябе, чым у сябра.

Рыдлёўкамі капалі папераменна. Пясчаная зямля на кладах лёгка паддавалася, і каля ямы вырастаў прыкметны горбік пяску. Яшчэ перад тым Федзька памеціў, дзе павінна была знаходзіцца бацькава магіла. Вунь пад тым дубам, пад жалезнымі крыжамі (імі заменіў некалі драўляныя) ляжала Іллёва жонка — Фёдарава мачыха. Цяпер з горада павінны былі прывезці жалезную агароджу і, можа, нават помнік з гранітнай крошкі самому Іллю.

— Капайце так, каб агарадзіць і мачышыну магілу — раіў Федзька. — Яна ж ляжыць тут, побач.

Рыгор выкідваў зямлю на край ямы. Пасля паклікаў Манаха:

— Тут вось, здаецца, корань трапіўся, ліха на яго.

Міхась ускочыў у яму, абмацаў прысыпаны пяском корань дрэва. Але ж дзіва: відаць, ад дуба корань дапяў аж сюды, дзе яны выкідвалі пясок. Як на тое ліха, сякеры з сабой ніводзін з іх не прыхапіў, ды і сякеры ні ў аднаго не было. Давялося з усіх сіл секчы лапатай. Нарэшце, тоўсты драўляны абрубак выкінулі з ямы на вільготны пясок. Рыгор, крэкчучы, нагнуўся і пачаў абмацваць дол рукамі.

— Труна, — спалохана прасіпеў ён.

— Ну і што? — усміхнуўся Манах. — Значыць, поруч — Іллёва жонка ляжыць. Цяпер абодвум будзе не сумна. Тут можна трохі прысыпаць, і нічога ніхто не заўважыць.

Нейкі час моўчкі прыхлопвалі рыдлёўкамі рыжую глiністую зямлю. Да збуцвелага вугалка труны прысыпалі ўжо выкапаную яму. А пасля адзін за другім прыселі на разасланую пад сасной цырату. Яе разам з ломікам прыхапіў з капліцы Манах.

— Ранавата скончылі, — са шкадаваннем прамовіў ён. — Мусіць, з Гомеля яшчэ не дабралася да Выселак машына з Іллём.

— Ціха! Прыслухайся, — прыклаў да вуснаў заскарузлы палец Рыгор. Яго пакрыты чорным шчаціннем твар выцягнуўся. Маленькія вочкі насцярожана пачалі ўзірацца ў той бок, дзе знаходзіліся Выселкі.

І сапраўды, на дарозе, што вяла ўзлеском — па вышэйшых мясцінах — паказалася жалобная працэсія. Паперадзе паволі сунулася грузавая аўтамашына. У кузаве на табурэтах ляжала абабітая чырвоным труна. Каля яе віднеліся прыгорбленыя постаці: сядзелі, мусіць, Іллёвы сын і дачка. Ля іх, трымаючыся за барты машыны, горбіўся малодшы Іллёў — Федзька ў пярэстым міліцэйскім бушлаце. Каля іх паблісквала металічная агароджа. Раздабыў, значыць, Федзя для бацькі і мачыхі «дворык». Ззаду цягнуўся, пагойдваючыся на выбоінах, маналітражны аўтобусік.

Далакопы пажвавелі. Прыхлопалі лапатамі насыпаны горбік пяску каля магілы. Самі адышліся да капліцы, знялі з галоваў замурзаныя вязаныя «чулкі». Манах нават правёў рукавом ватоўкі па чаравіках — змахнуў зямлю, што насыпалася, калі капаў яму.

Быў канец сакавіка. Але нечакана цісканулі маразы, задзьмуў пранізлівы вецер, і ўсё ў наваколлі замерла. Ды вось каторы ўжо дзень вецер заціх, і хоць па начах даймалі маразы, днём усё ж адчувалася: вясна ўпарта пагрукала недзе за дальнімі лясамі — напамінала аб сабе. Вунь з даху капліцы ўжо выцягнуліся з сонечнага боку капяжы. Кропля вады сарвалася і трапіла на Рыгораву галаву. Той незадаволена перасмыкнуў плячыма, скасавурыўся на Манаха.

— Жывём, браток! — ажыўлена рагатнуў той. — Правядзём дзеда Іллю. А там, бачыш, неўзабаве і радуніца падаспее. Тады сюды прыедуць з бліжніх і дальніх гарадоў.

— Прыедуць, — пацвердзіў Рыгор і правёў далонняй па цёмнай шчаціне. Шчыра кажучы, ён пашкадаваў, што апошнія тыдні не галіўся. Урэшце і галіцца не было чым: станок ад бяспечнай брытвы іржавеў на камінку ў хаце, дзе ў апошнія паўгода займеў ён прыстанішча. Цяпер у думках ён прыкідваў: калі ў агароджы на слупках будуць насаджаны алюмініевыя наканечнікі ці шары (такое траплялася ўжо ў яго практыцы), можна будзе калі-небудзь іх сцібрыць і тайком ад Манаха здаць на металалом. У бліжнім сельпо кажуць яго прымаюць.

Дзве сінічкі перапорхвалі па ствалу сасны, цікавалі за разасланай на мінулагоднім шыгаллі цыратай. Манах адшчыкнуў маленькі скрылік сала і кінуў пад камель дрэва. Смялейшая сінічка скокнула з галінкі на галінку — цікаўным вочкам нацэлілася на белы кавалачак і спрытна схапіла яго ў дзюбу.

— Малайчына! — пахваліў сінічку Манах і аж прыўстаў з зямлі. Пачаў сачыць, як у зялёных лапах знікла маленькая птаха.

— Чаго гэта ты? — не зразумеў Рыгор.

— Нічога, — адмахнуўся Міхась і пакратаў адтапыраныя вусікі. — Ідзём да царскіх варотаў — страчаць Іллю.

**— Дзе, на вашу думку, сёння знаходзіцца сусветны культурны цэнтр?**

— Некалі, ў пачатку XX стагоддзя, культурнай сталіцай быў Парыж. Цяпер, я мяркую, вялікія шанцы ёсць у Берліна. Калі казаць пра тэхнічную аснашчанасць, дык Парыж, бяспрэчна, лідзіруе ў электронных тэхналогіях, саступаючы толькі Японіі. Але сэнс заключаецца не ў тэхніцы, не ў процьме апаратуры, а ў людзях. Цэнтр культуры, ў тым ліку і музычны, там, дзе засяроджваецца найбольшая колькасць таленавітых асобаў. Наогул жа, цяпер цяжка правесці якія-небудзь дакладныя межы. Можна сказаць, што са з'яўленнем Інтэрнета яскрава акрэсленыя цэнтры перасталі існаваць — усё мяняецца.

**— Чым вы яшчэ цікавіцеся, акрамя музыкі?**

— Я люблю навукова-папулярныя кнігі. Мяне цікавіць, як чалавек чуе: гэта не толькі анатомія ягонага вуха ці распаўсюджванне гукавых хваляў, але і апошнія адкрыцці нейрабіялогіі. Аказваецца, між органам слыху і мозгам існуе некалькі каналаў зносінаў: часам гукавы сігнал ідзе аналагавым спосабам, часам — лічбавымі. Гэта ўражвае: прырода і Бог забяспечылі чалавеку на выпадак парушэння слыху дадатковыя спосабы атрымання інфармацыі. У здаровых жа людзей гэтыя сігналы праходзяць па многіх каналах, але існуе механізм, які дазваляе ім дасягнуть мозгу у адзін і той жа час. З гэтым звязана, напрыклад, з'ява "дэжа вю"... Яшчэ вельмі цікаўлюся культурай Далёкага Усходу, у прыватнасці, Японіі. Маё хобі — спазнаванне традыцыйнай японскай музыкі як з'явы духоўнай культуры.

**— Скажыце, у якім сваяцтве ваш муж са славутым і вельмі любімым на Беларусі Міхалам Агінскім?**

— Сваяцтва вядзецца па жаночай лініі. Ключавая фігура — Амелія Залуская, у дзявоцтве Агінская. прозвішча Залускіх працягваецца да маёй свекрыві, маці мужа.

**— А муж адчувае сябе родзічам Агінскага?**

— Так, у чымсьці гэта сямейная музычная традыцыя выяўляецца вельмі цікава. Муж іграе на віяланчэлі ў камерным аркестры Польскага радыё. У яго ёсць стары інструмент, на якім музіцыраваў яшчэ прадзядуля. Свекрыві цяпер 92 гады, яна была піяністкай, скончыла ў Вроцлаве, незадоўга да вайны, кансерваторыю, выступала з канцэртамі. У сям'і Залускіх часта нараджаліся музыканты.

**— Дзякуй вам за гутарку.**

**Віталь РАДЗІЁНАЎ,**
**старшыня Асацыяцыі кампазітараў Гродзеншчыны**

***НА ЗДЫМКУ: падчас візіту у Мінск — польскія кампазітары Лідзія ЗЯЛІНЬСКАЯ ды Рафал АЎГУСТЫН са сваім беларускім калегам Аляксандрам ЛІТВІНОЎСКІМ.***

***ФОТА В. СТРАЛКОЎСКАГА***

---

гэтай п'есе Л. Пірандэла адзін з герояў кажа, што ёсць людзі, якія ўжо нараджаюцца тэатральнымі персанажамі, нясуць драму ў саміх сябе. Паводле рэжысёрскай канцэпцыі Р. Таліпава, які паставіў вельмі дынамічны, напружаны па тэмпарытме спектакль (такі своеасаблівы сцэнічны саспенс) шасцёра персанажаў у пошуку аўтара выходзяць на сцэну з глядзельнай залы (тэатральнымі героямі могуць быць любыя з гледачоў), трапляючы на вясёлую тэатральную рэпетыцыю. Да апошняй мізансцэны тут будзе панаваць "тэатр у тэатры", бо гледачамі драматычнай гісторыі, разыгранай шасцёрамі персанажамі, папераменна будуць ці то публіка ў зале, ці то акцёры ўмоўнага тэатра, у які трапілі людзі, што ўжо нарадзіліся тэатральнымі персанажамі. Гэты глыбокі, літаратурны спектакль разлічаны пераважна на ўдумлівую публіку, хаця рэжысёр Р Таліпаў, якому даспадобы ўсемагчымыя візуальныя штукарствы, смелая гульня колераў у прадметах бутафорыі і касцюмах і ў гэтай рабоце застаецца самім сабой і прыцягвае ўвагу гледачоў незвычайнымі пастановачнымі дэталямі (у пэўных мізансцэнах нечакана з'яўляецца жывы сабака альбо ціха ідзе бурбалкамі вада ў вялікім акварыўме з рыбкамі).

Вядомую кітайскую трагікамічную казку аб трох загадках, жарсці і каханні пад назвай "Турандот" рэжысёр А. Жугжда (цяперашні мастацкі кіраўнік Гродзенскага абласнога драмтэатра) увасобіў на сцэне ў выглядзе тэлевізійнага шоу. Тут пад пільнае вока відэакамеры трапіла ўсё, чым захапляюцца сучасныя тэлегледачы: а гэта і жорсткасць паводзін, феміністычных перакананняў прынцэсы Турандот (Г. Лабанок), і бессэнсоўныя казні закаханых у яе хлапцоў, і шчырае пачуццё новай ахвяры ганарлівай прыгажуні —Калафа, прынца Астраханскага (Р.Кушнер), які здолеў вытрымаць іспыты Турандот. Несумненна, усё набытае, павыдумлянае яшчэ вахтангаўцамі ў славутым спектаклі "Турандот" 60-х, выкарыстоўваецца і нашым А. Жугждам: прынамсі, камічныя аблічча, гэгі Альтаума, імператара Кітайскага (У. Галкін), Панталоне, сакратара Альтаума (А. Палкін), Тарталы, вялікага канцлера (А. Пьянзін), Труфальдзіна, начальніка еўнухаў (В. Галец), а таксама ўцягванне ў тэатральную гульню публікі з першых радоў залы (вясёлая кампанія са сцэны раздае гледачам традыцыйныя галаўныя ўборы кітайскіх сялян, вымушаючых іх судзіць іспыты новага жаніха Турандот). Але ў фантазіі А. Жугжды гісторыя Турандот разыграваецца за кратамі, абнесенымі калючым дротам, так бы мовіць, у краіне з жорсткім палітычным рэжымам, што не зусім стасуецца з камедыйным настроем п'есы, вясёласцю акцёраў, якія напачатку спектакля выходзяць на сцэну і размяркоўваюць ролі "Турандот" паміж сабой, запрашаючы ўсіх астатніх быць сведкамі гульні ў тэатр...

**В. БАРАБАНШЧЫКАВА**

---

**ПРЭЗЕНТАЦЫІ**

# БАРОКА
## НАШ ЕЎРАПЕЙСКІ ДОСВЕД

**У Нацыянальным мастацкім музеі Беларусі адбылася прэзентацыя новай кнігі вядомага навукоўца Надзеі Высоцкай "Жывапіс барока Беларусі". Выданне прысвечана манументальнаму і станковаму жывапісу нашай краіны XVI—XVIII стагоддзяў. Прадстаўленае ў кнізе мастацтва пераканаўча сведчыць, што Беларусь у часы Вялікага Княства Літоўскага і Рэчы Паспалітай была інтэграванай часткай Еўропы, што наша культура натуральна стасуецца з агульнаеўрапейскімі плынямі ва ўсіх галінах інтэлектуальнай дзейнасці. Пры тым, што Беларусь была і застаецца мастом паміж "візантыйскім" Усходам і "кітайска-пратэстанцкім" Захадам.**

Надзеяй Высоцкай была праведзена вялікая праца па збіранні, анацыраванні і дацыроўцы помнікаў. Прафесійнае прымяненне стылістычнага аналізу дазволіла аўтару абагуліць вялізны і рознахарактарны матэрыял і паказаць асаблівасці трох асноўных перыядаў барока — мастацтва сярэдзіны 2-й пал. XVII ст., позняе барока — мастацтва XVIII ст. У 1720—1775 ракако ахоплівае ўсе віды мастацтва. А ў 1760—1780-я гады ў сімбіёзе з барока ўмацоўваецца класіцызм. Вельмі цікавая і доказная тая частка матэрыялу, якая датычыцца прамога ўплыву Беларусі (Літвы) на Расію (Масковію). Цікава прасочана аўтарам складаная дыялектыка ўзаемаадносін барока, якое прыйшло з экспансій іезуітаў, абноўленага каталіцызму, — якое набыло паступова характар нізаво-



га, "сялянскага барока". Н. Высоцкая асэнсоўвае барока Беларусі як шырокую плынь, дзе суіснуюць і ўзаемадапаўняюць адзін аднаго творы замежных майстроў, якія потым зліліся з мясцовым культурным асяроддзем, творы ўласна беларускіх майстроў. Стварэнне выдання "Жывапіс барока Беларусі" — вынік экспедыцыйнай работы ў 1946—2002 гадоў, у час якой былі выяўлены, пашпартызаваны і ўзяты на дзяржаўны ўлік унікальныя ансамблі, асобныя помнікі ўсіх відаў мастацтва Беларусі. Аснову гэтай кнігі складаюць помнікі калекцыі Нацыянальнага мастацкага музея Беларусі, а таксама іншых музеяў нашай краіны, Расіі, Польшчы.

Асаблівасць барока ў Беларусі ў тым, што станаўленне яго адбывалася на базе еўрапейскіх стыляў (раманскага, готыкі, рэнесансу) у непарыўным адзінстве з візантыйскімі і мясцовымі традыцыямі XII-XVI стст. Уяўленне аб ансамблі ранняга барока дае алтар у Будславе (1649). Прысценыя алтары 2-й чвэрці-сярэдзіны XVII ст. у Воўпе, Гродне, Поплішчы, Новай Мышы, Крамяніцы ў ніжняй частцы калон размешчаны галоўкі або фігуры анёлаў, раслінны, геаметрычны арнамент. Каля сярэдзіны XVII ст. у дэкоры з'явіліся выявы садавіны, кветак. Інтэр'еры праваслаўных цэркваў упрыгожваліся іканастасамі. Гэта сведчыць пра тое, што беларускія майстры засвоілі сістэму іканастаса, якая склалася ў дзяржавах Старажытнай Русі. Адзіны падпісаны і датаваны помнік XVII ст. абраз Пятра Яўсеевіча з Галынца "Нараджэнне Маці Боскай" (1649) захаваў характэрныя для XVI ст. прыём выканання рознага арнаменту і ўвёў архітэктурны пейзаж за кратамі вакна і прадметы побыту ў інтэр'еры, ад сябе намаляваў персанажы, а гэта значыць — ператварыў абраз у жанравую карціну. Твор Пятра Яўсеевіча, як і "Нараджэнне Хрыстова" з Дзяржаўнага гістарычнага музея (Масква), паказвае, што ў развіцці рэалістычных тэндэнцый беларускі іканапіс гэтага часу значна апярэджвае мастацтва Старажытнай Русі і з'яўляюцца яркім прыкладам беларускай іканапіснай школы, у якой прасочваецца станаўленне нацыянальнага варыянта барока.




Прадстаўлены ў кнізе і парадныя партрэты, створаныя ў Беларусі пад уплывам нямецкага і фламандскага мастацтва — "Партрэт Януша Радзівіла" Данііеля Шульца (1615-1638?), "Партрэт Аляксандра Астрожскага" Андрэя Стэха (1635—1697?), у якіх адчуваецца веданне іспанскіх і данцыгскіх узораў. Побач з гэтымі вядомымі мастакамі працавалі мясцовыя майстры. Пад уплывам узораў мемарыяльнай пластыкі — "Надмагілле Крыштафа III Мікалая Радзівіла" (1608) у Нясвіжы — яны стварылі партрэты тыпу "у лаўровым вянку" — "Партрэт Вайшунта", "Партрэт Станіслава Казіміра Радзівіла", "Партрэт Лізавелы Кішкі, народжанай Радзівіл". Гэты тып партрэта атрымаў шырокае распаўсюжанне ў мастацтве Беларусі 2-й пал. XVII—XVIII стст. Узбагаціўшы арсенал новымі тэхнічнымі прыёмамі, творча засвоіўшы лепшыя дасягненні заходнееўрапейскага мастацтва і злучыўшы іх з мясцовымі традыцыямі, беларускія разьбяры стварылі свой нацыянальны варыянт барочнай разьбы.

У кнізе прадстаўлены таксама цікавыя ілюстрацыі да інтэр'ераў беларускіх храмаў, дзе з 1730 па 1775 пануе ракако. Характэрныя рысы гэтага стылю — парушэнне канструктыўных прынцыпаў у бок дэкаратыўнасці, арнаментыкі — прасочваецца ў прысценках драўляных, ляпных алтарах, дэкоры касцёлаў Гародні, Пінска, Слоніма, Дзятлава, Муравана-Ашмянкі, уніяцкіх цэркваў у Полацку, Беразвеччы, у афармленні арганаў, амбонаў (Новая Мыш, Міхалішкі). У сярэдзіне XVIII ст. беларускія майстры актыўна выкарыстоўвалі рэпертуар арнаментыкі ракако. Некаторыя беларускія рэзчыкі, як і майстры сабора святога Марка ў Венецыі, сталі размяшчаць на бэльцы над іканастасам статуі апосталаў, прадстаячых да Хрыста, і тым самым спрабавалі захаваць кампазіцыю дэісуснага чыну іканастаса. Моцны ўплыў на мастацтва Беларусі зрабілі прыдворныя мастакі саксонскіх каралёў, іканапісцы ў XVIII ст., якія зберагалі вернасць традыцыям мясцовага, старажытнарускага жывапісу, ужо не цураліся дасягненняў заходнееўрапейскага мастацтва.

Хуткае засваенне барока, якое ўжо прасочваецца ў канцы XVI ст., дазволіла Беларусі стаць правадніком гэтага стылю на Усход ужо ў "вызваленым" ад каталіцызму выглядзе. Таму без ведання культуры Беларусі XVI—XVIII стст. немагчыма ўявіць развіццё мастацтва славянскіх народаў, як неад'емнай часткі сусветнай культуры.

Кніга Надзеі Высоцкай "Жывапіс барока Беларусі" адпавядае сучаснаму ўзроўню мастацтвазнаўчай навукі, уяўляе сабою новую ступень у даследаванні нашай культурнай спадчыны. Па-першае, аўтар упершыню ўводзіць у абарот больш ста помнікаў станковага і манументальнага партрэтнага жывапісу, раскрытых рэстаўратарамі ў апошнія дзесяць гадоў. Па-другое, гэта помнікі, якія знойдзены і раскрытыя ў папярэднія сорак гадоў, навукова даследаваныя (хімічныя аналізы, палеаграфія подпісаў, архіўныя даведкі пра жывёл і г. д.), што дазваляе гаварыць прынцыпова аб новай працы.

Метадалагічны падыход аўтара такі ж як і ў ранейшых вядомых яе працах (Н. Ф. Высоцкая. "Іканапіс Беларусі XV—XVIII ст.". Мн., 1992; "Тэмперны жывапіс Беларусі канцы XV—XVIII стст., Мн., 1986), прынцыпова новыя ўвядзенні ў дадзеную кнігу "Жывапіс барока Беларусі" — палеграфічныя табліцы, дадзеныя хімічных аналізаў.

Манаграфія ўключае анаціраваны каталог жывапісных твораў, ілюстрацыйны раздзел, а таксама "Дадатак" (слоўнік жывапісцаў, спіс выстаў з паказальнікам нумароў помнікаў, якія экспануюцца, бібліяграфію публікацый, палеаграфічныя табліцы, дадзеныя хімічных аналізаў).

Гэтая унікальная праца Н. Высоцкай у большай ступені арыентавана на прафесійных мастацтвазнаўцаў, музейных работнікаў і выкладчыкаў, аднак можа выкарыстоўвацца таксама і студэнтамі ў навучальных установах, а таксама для пачынаючых даследчыкаў, цікава яна кожнаму, хто любіць і вывучае самастойна помнікі Беларусі. Дарэчы, тэкст на шасці мовах.

Хочацца ўспомніць добрым словам дырэктара Фабрыкі каляровага друку Аляксандра Іванавіча Аксёненку, які паверыў, што гэтае выданне патрэбнае ўсім, хто хоча ведаць гісторыю беларускага мастацтва і ўзяў на сябе ўсе фінансавыя затраты, каб кніга ўбачыла свет.

**Галія ФАТЫХАВА,**
**мастацтвазнаўца, лаўрэат прэміі "За духоўнае адраджэнне"**










# МІНСК СВЯТКАВАЎ ВЫЗВАЛЕННЕ










Уладзімір СВЯТЛОЎ

***Аўтар гэтага матэрыялу, кінарэжысёр Уладзімір Святлоў нарадзіўся ў 1926 годзе ў вёсцы Крупкі Крупскага раёна.***
***Калі пачалася вайна, бацька быў цяжка паранены, сталася так, што сям'я засталася ў Мінску. Пасля вайны У. Святлоў быў рэпрэсіраваны і адбываў тэрмін у Варкуцінскім ГУЛАГу. Лагер стаў для яго своеасаблівым універсітэтам. Там лёс звёў У. Святлова з многімі цікавымі людзьмі: акцёрамі, рэжысёрамі, палітычнымі дзеячамі. Пасля вызвалення ў 1953 годзе вярнуўся ў Мінск. У 1971 годзе быў рэабілітаваны Вярхоўным Судом СССР.***
***У 1968 годзе закончыў Беларускі дзяржаўны тэатральна-мастацкі інстытут.***
***З 1958 года працаваў рэжысёрам на Мінскай студыі тэлебачання.***
***У 1968 годзе перайшоў на кінастудыю "Беларусьфільм", дзе працаваў кінарэжысёрам мастацкіх фільмаў.***

На здымках кінафільма "Белыя адзенні" па аднайменным рамане У. Дудзінцава спатрэбіўся кансультант па лагерным рэжыме сталінскіх часоў. Мая памочніца знайшла такога чалавека. Калісьці ён быў начальнікам лагпункта дзесьці на Поўначы і не вельмі ахвотна згадзіўся прыйсці на кінастудыю. І вось ён перада мной за пісьмовым сталом. Даволі пажылы чалавек, сівы, з насупленымі бровамі, высокі, шыракаплечы. Я тлумачыў пра што фільм, якая дапамога патрэбна нам ад яго, былога начальніка лагпункта. Калі ж я пачаў расказваць яму пра лагернае жыццё, дык заўважыў, што яму незразумела адкуль так добра ўсё ведаю. Мабыць таму часам ён усміхаўся, маўляў, начытаўся рэжысёр усякай чарнухі і зараз паказвае свае веды.

Але, у свой час, адбыўшы пэўны тэрмін у лагерах, я, вядома, мог бы абысціся без кансультанта. Але ж у цітрах фільма павінен значыцца адпаведны кансультант. І вось чым больш я ўглядаўся ў гэтага чалавека, які сядзеў перада мной, тым больш хваляваўся: нешта знаёмае ў абліччы, суровы голас, недавер. Я напружваў памяць: дзе я яго бачыў... І раптам, здаецца, між волі вымавіў:

— Скажыце, Іван Пятровіч, (так ён адрэкамендаваўся) ці не былі вы ў Варкуце начальнікам васемнаццатага лагпункта?

Мой субяседнік ад нечаканага пытання рэзка страпянуўся, яго пальцы нервова забарабанілі па стале, твар густа пачырванеў, а вочы пачалі трывожна ўглядацца ў мяне.

— Так, быў, — непрыязна вымавіў ён. — Якое гэта мае для вас значэнне?

Ад такога адказу субяседніка мая душа быццам скамянела, даўкі камяк падступіў да горла, губы задрыжэлі. Я ціха вымавіў:

— Іван Пятровіч, вы той чалавек, які змяніў мой лёс, маё жыццё...

— Я не зусім зразумеў вас...

— Калі васемнаццацігадовым юнаком я трапіў на ваш лагпункт, са мной здарыўся непрыемны выпадак, пасля якога я мог загрымець на вапнавы кар'ер, дзе і закончыў бы свой жыццёвы шлях, як многія іншыя зняволеныя. Вы трымалі ў руках дзве паперы: адна ў тое пекла, другая ў гарадскі тэатр... Вы, прабачце, брыдка вылаяліся і разарвалі паперу на вапняк: — Станеш артыстам, калі-небудзь скажаш — дзякуй!

Кансультант глядзеў на мяне, нічога не разумеючы.

— Цяпер я магу вам чыстасардэчна сказаць: Дзякуй, Іван Пятровіч, вялікі дзякуй!

Былы начальнік лагпункта падняўся з-за стала:

— Шляхі гасподні нявызнаны... Я прыпамінаю гэты выпадак... Ну, артыст, я рады за вас, — рассмяяўся кансультант.

Мы моцна паціснулі адзін аднаму рукі.

Позна ўвечары пасля кіназдымак я прыйшоў дадому, узбуджаны гэтай нечаканай сустрэчай. Лёг у ложак. Не спалася. Перад вачыма паўставалі эпізоды майго лагернага жыцця.

Наш этап з перасыльнага пункта ў Маскве направілі ў горад Варкуту і часова размясцілі ў катаржанскім лагеры 17-й шахты. Як пісаў у сваёй кнізе "Архіпелаг ГУЛАГ" Аляксандр Салжаніцын "Самы першы катаржанскі лагер быў на 17-й шахце Варкуты. Мэта была адна: катаржан трэба ўмярцвіць. Гэта адкрытая душагубка, расцягнутая па часе, — каб замардаваным пакутаваць даўжэй і перад смерцю яшчэ папрацаваць". Ад здзекаў, ад непасільнай працы катаржане мерлі, як мухі. Калі збіралася шмат трупаў, іх забіралі ў трупярню. Ноччу вывозілі ў тундру. Там капалі

яму, каля якой укладвалі нябожчыкаў. Спрактыкаваны начальнік прыступаў да сваёй "доблеснай і геройскай" працы. Над варотамі ў гэты лагер, на вялізным шчыце красаваўся надпіс: "Труд в СССР — дело чести, дело славы, дело доблести и геройства". Наглядчык з жалезным малатком падыходзіў да кожнага трупа і двойчы разбіваў яму чэрап. Пасля гэтага нябожчыкаў клалі ў яму штабелем, як дровы. Засыпаўшы брацкую магілку дзірваном, катаржане, апусціўшы галовы, вярталіся ў зону. Кожны з іх разумеў, што неўзабаве такое чакае і яго.

Вязні нашага этапа не лічыліся катаржанамі, але абыходзіліся з намі не лепш. Ішоў час, але наш этап у новы лагпункт не пераводзілі. Толькі ў сакавіку мы дачакаліся гэтага "шчаслівага дня". Барак сустрэў нас амаль голымі нарамі, без пасцельнай бялізны, праўда, на іх былі падушкі, набітыя пілавіннем.

Раніцай мяне выклікаў да сябе нарадчык, які прыйшоў у барак. Я пайшоў за ім, гадаючы навошта я яму спатрэбіўся. У пакоі, куды ён мяне прывёў, каля вакна стаяў высокі чалавек з мужным тварам. Я здагадаўся, што гэта начальнік лагера. Ён зірнуў на мяне, і спытаў:

— Чаму такі дахадзячы?

Я маўчаў.

— У тваім фармуляры запісана, што ты з Беларусі.

Я кіўнуў галавой.

— Зямляк значыцца. Я з-пад Оршы. Чуў пра такі горад?

— Ведаю.

— Па нацыянальнасці рускі?

— Не, беларус.

— А чаму ў фармуляры напісана рускі?

— Так запісаў следчы. Сказаў, што такое прозвішча носяць рускія, або скрытыя яўрэі...

— А ты не скрыты?

# СУСТРЭЧА НА "БЕЛЫХ АДЗЕННЯХ"

— Не...

Начальнік лагера падышоў да стала. Сеў за яго, некалькі разоў рукой правёў па падбародку.

— Хачу прызначыць цябе брыгадзірам над прыбалтамі. Я іх...

Зморшчыўся. Мяне быццам абдалі кіпнем:

— Гражданін начальнік, які з мяне брыгадзір... Я не здолею...

— Нічога, што малады. Калі ёсць мазгі, навучышся кіраваць, а далей пабачым... Размова закончана. Можаш ісці.

Я павярнуўся да дзвярэй:

— Стой. — Скамандаваў ён. Узяў аловак, нешта чыркануў на паперы і падаў яе мне:

— З гэтай запіскай пойдзеш у хлебарэзку.

Калі я выйшаў ад начальніка, то яшчэ некалькі хвілін не мог супакоіцца. Адчуванне было такое, быццам гэта было не са мной, а з некім другім. Нават падумалася, мабыць, я ўжо губляю розум.

У хлебарэзцы я падаў запіску хлебарэзчыку. Той коса зірнуў на мяне, непрыемна ўсміхнуўся і адрэзаў паўбуханкі хлеба. Я сеў за вуглом хлебарэзкі, у снег, прыхіліўшыся да сцяны. Я не верыў сваім вачам: у маіх руках быў хлеб. Я варочаў гэты цуд, быццам не ведаў, што з ім рабіць. Затым, нібы драпежны звер, накінуўся на яго. Я прагна кусаў хлеб, пазіраючы навокал: ці не думае хто яго адабраць у мяне. З'еўшы болей паловы, я крыху супакоіўся. Паклаў астатняе за пазуху. Крошкі, што рассыпалі на калені збіраў, нібы гэта былі жамчужныя пацеркі, выпаўшыя з караляў.

Вечарам нарадчык адрэкамендаваў мяне зняволеным з Прыбалтыкі як іх брыгадзіра. Тыя моўчкі выслухалі яго, і я не ведаў, як яны мяне ўспрынялі..

Раніцой прараб павёў нас на месца працы. Мы пачалі капаць шурф. Зямля была непадатлівай, скаваная вечнай мерзлатой. Лом высякаў з яе іскры, рыдлёўкі звінелі і гнуліся. На халодным ветры, мы цяжка дыхалі, абліваліся потам. Неўзабаве да мяне падышоў рослы немалады эстонец і закрычаў прама ў твар:

— Начальнічак, пры такой працы, мы сваю пайку не заробім. Хутка на нас усіх надзенуць драўляны бушлат.

Я разгублена глядзеў на яго азлоблены твар, не ведаючы што адказаць.

Я разумеў, што ён мае рацыю. Вечарам, пасля такой знясіленай працы мы ледзь прыцягнуліся ў зону. Замардаваныя, не маглі як след трымаць кацялкі з баландай, рукі калаціліся ў кожнага...

Нарэшце праз нейкі час мы прасеклі шурф для новай шахты. Без усялякай тэхнікі бяспекі мы былі вымушаны апускаць бодню з людзьмі на дно. Такім жа чынам выцягвалі на верх, часам калечачы рабацяг.

Аднойчы ў нашу зону завітала брыгада з Варкуцінскага гшарадскога тэатра. Пасля канцэрта яе кіраўнік Мікола Маліборскі спытаў:

— Ці ёсць сярод вас артысты, спевакі, танцоры.

Вязні маўчалі, я ж падняў руку:

— Падыдзіце да мяне — пазваў кіраўнік. — Што вы ўмееце рабіць.

— Спяваць, — адказаў я.

— А што вы нам праспяваеце?

— Беларускую народную песню "Забалела ты мая галованька".

— Цікава, — лагодна ўсміхнуўся "мэтр" і звярнуўся да акардэаніста: — Падыграй яму трохі.

*Забабела ты мая галованька,*
*Забалела галава*
*Ой, ідзіце ды мне прывядзіце,*
*Прывядзіце ка мне Кацярыну*
*Ці ня жыўшы буду я...*

Пры апошніх словах я цяжка ўздыхнуў, узяўся за галаву, пачаў пакалыхваць ёю, паказваючы, як мне люба Кацярына.

Зняволеныя, што абступілі нас, зайшліся ад смеху. Відаць, маё аблічча ніяк не стасавалася з тэкстам песні. Кіраўнік смяяўся таксама:

— Голас у цябе ёсць, толькі сыры, неапрацаваны. Вярнуся ў тэатр, раскажу пра цябе... Трымайся, хлопец...

Начальнік лагера заўважыў:

— Толькі акрыяў, а ўжо падайце яму Кацярыну...

Усе зноў засмяяліся.

Я не вельмі спадзяваўся, што траплю ў тэатр. Хаця ўсё ж бадзёрыўся: на мяне звярнулі ўвагу.

У пачатку лета на 17-ю шахту прыйшоў этап вязняў. Я быў вельмі здзіўлены, калі сярод іх ўбачыў Карла Карлавіча — галоўнага ўрача лагернага стацыянара. На Карлавічы была цёплая футравая шапка, кажух, праз рагавыя акуляры глядзелі халодныя, колкія зміныя вочы. Я ўспомніў, як аднойчы ў катаржанскім лагеры, калі адчуў, што "даплываю", пайшоў пасля працы да яго на прыём. Дапамагчы зняволеным мог толькі ўрач. У варкуцінскіх лагер-пунктах медыцынскі персанал часта дапамагаў вязням, выратоўваў іх ад немінучай смерці. Карл Карлавіч быў не выратавальнік, а вылюдак, садыст, ён люта ненавідзеў хворых, якія звярталіся да яго. Я спадзяваўся, што сваёй маладосцю крану яго сэрца. Стаў у чаргу. Неўзабаве з'явіўся наш "выратавальнік". Апрануты ў футра, з крагамі на чаравіках, у скураных пальчатках і... на добрым падпітку. Ён калючым позіркам абвёў нас — цені, не вартыя спачування. Затым Карл Карлавіч стаў у баксёрскую позу і пачаў падтанцоўваць, быццам чакаючы свайго працiўніка. Хворыя зняволеныя ўжо ведалі, што будзе далей, пачалі разбягацца ў розныя бакі. Я не адразу зразумеў, што да чаго і застаўся сам-насам з доктарам. Карл Карлавіч упіўся ў мяне п'янымі вачыма і, амаль не раскрываючы рот, запытаў:

— Ну што, філон, хочаш атрымаць вызваленне ад працы? Можа, пакласці цябе ў стацыянар? Зараз ляжаш. — І ён маланкава ўдарыў мне ў твар.

Я паваліўся ў снег, паліваючы яго крывёю. Эскулап глядзеў і злосна ўсміхаўся. А ў мяне перад вачыма ўсё плыло. Я нічога не разумеў. Некалькі разоў спрабаваў падняцца, уставаў на калені, але зноў моцны ўдар адкідваў мяне на акрываўлены снег.. Не памятаю, як я дабраўся ў барак да свайго месца.



Аб баксёрскіх "забавах" урача лагернае начальства добра ведала. Начальства гэта задавальняла: зняволеныя баяліся хадзіць да ўрача, вызваленнняў ад працы было мала, і часта зусім хворыя і нямоглыя выходзілі за зону.

Карла Карлавіча пасялілі ў наш барак. Раніцой ён разам з нашай брыгадай выйшаў за зону:

— Вальдэмар, (так звалі мяне прыбалты), трэба апусціць яго на дно. Нечага яму рабіць наверсе, — сказаў эстонец Эміль Сажэ.

Я кіўнуў галавой у знак згоды, бо без Эміля з мяне быў бы брыгадзір — ніякі. Але нам трэба было штодзённа выконваць норму. А гэта — амаль немагчыма. І вось Сажэ заўсёды прыдумваў розныя апісанні працы, і брыгада ў выніку атрымоўвала максімальную пайку. Карацей кажучы, ён умеў добра абвесці вакол пальца начальства. Я падышоў да Карла Карлавіча, той не пазнаў мяне: бо ці мала каго ён у семнаццатым лагеры біў так, як мяне, калі быў урачом.

— Сядайце ў баддзю з кайлом і рыдлёўкай... Унізе без вас сумна...

Мой былы "выратавальнік" вострым паглядам прарэзаў мяне, але моўчкі ўсеўся ў баддзю. Адзін з рабацяг, яго зямляк-латыш, пачаў раскручваць ручку драўлянай вяртушкі. Думаю, ён наўмысна не ўтрымаў яе. Эскулап з галашэннем паляцеў уніз. Яго паднялі наверх добра пабітага, залітага крывёю.

Я спытаў у Эміля Сажэ:

— Гэта, мусіць, было задумана свядома?

— Са здраднікамі мы абыходзімся толькі так, — суха адказаў той.

За гэты ўчынак, як брыгадзір я нёс адказнасць. Начальнік лагернага рэжыму коршакам наляцеў на мяне. Ён мацюкаўся, як толькі мог, затым паставіў мяне пад вышку вартавога. А праз тры гадзіны нарадчык прывёў мяне да начальніка лагера. Той сядзеў за сталом злосны. Каля вакна стаяў рэжымнік, яго твар быў нездаровы, спіты. Ён злосна спытаў:

— Колькі табе гадоў?

— Дзевятнаццаць.

— Як ты, Іван, мог такога сапляка паставіць брыгадзірам?

— Гэта мая віна... Не ведаю, што з ім рабіць...

— Хм, што рабіць? На вапнік яго, чаго тут раздумваць...

Начальнік лагера маўчаў.

— Ты як хочаш, твая справа, — пазяхнуў ва ўвесь рот начальнік рэжыму.

Адышоў ад акна і накіраваўся да дзвярэй. Калі той выйшаў, кіраўнік лагера моцна ўдарыў кулаком па стале. Я ўпяў галаву ў плечы.

— Тваю маць!.. — падняўся ён з-за стала і падышоў да вакна:

— Бачыш, у мяне дзве паперы ў руках: адна на вапнавы кар'ер, другая... ў тэатр...

Пачуўшы аб вапнавым кар'еры і мяне апанаваў жах: усё, канец...

— Ну, што мне рабіць з табой?..

Я пакорліва апусціў галаву, чакаючы яго прысуду. Начальнік пільна сачыў за мной. Не ведаю, чым ён кіраваўся ў той момант, калі разарваў адну з папер і кінуў яе ў печ. Я ж стаяў ні жывы, ні мёртвы.

— Не хочацца знішчаць тваё маладое жыццё... зямляк... — Раптам лагодна ўсміхнуўся ён: — Станеш артыстам, калі-небудзь скажаш — дзякуй!

Я не адразу зразумеў што да чаго. Калі ж уцяміў, адчуў, як дрыжаць губы, а на вачах з'явіліся слёзы.



На другі дзень, на досвітку ў суправаджэнні канвойнага, у санях, якія цягнуў маленькі конік, я ехаў у Варкуту. У гарадскі музычна-драматычны тэатр. У ім, разам з вольнанаёмнымі, у большай частцы працавалі вязні. Кіраўніком тэатра быў Барыс Аркадзьевіч Мардвінаў. Пасля вызвалення ён прыехаў у Мінск і стаў галоўным рэжысёрам тэатра оперы і балета. Калі я прайшоў вялікую школу тэатральнага майстэрства, стаў салістам, мне прыходзілася з брыгадай артыстаў выступаць у лагпунктах. Вельмі хацелася пабачыць яго начальніка, але не давялося. І толькі больш чым праз трыццаць гадоў выпадкова на здымках кінафільма "Белыя адзенні" я сустрэўся з Іванам Пятровічам Васюкевічам.

Цяпер, гледзячы праз прызму часу на падзеі тых гадоў, я думаю, што мой цяжкі лагерны шлях быў далёка не самым горшым сярод тысяч, соцень тысяч, а можа, мільёна іншых людскіх гулагаўскіх шляхоў. Сапраўды, у тым становішчы, у якім я знаходзіўся, трапіць у тэатр было вялікае шчасце. Гэта была надзея на жыццё.



***НА ЗДЫМКАХ:* *з калегамі-кінематаграфістамі; з Анатолем ПАПАНАВЫМ.***

**Фота з архіва аўтара**

**Васіль САХАРЧУК**

# СПОВЕДЗЬ САМОТНІКА

## (вершанемы)

**S.m.**

**Рукапіс,**
**знойдзены на сметніку**

*...Надыдзе дзень,*
*калі я скончу свой верш.*
*Усё ў ім будзе строга і прыгожа —*
*ні слоў, ні гукаў.*
*Таму сачыце,*
*калі ў вашы рукі*
*выпадкова трапіць*
*чысты, няспісаны аркуш,*
*можа, гэта і ёсць*
*мой самы завершаны верш!*
*(Здраўка Кісёў)*

*Няма існей таго, што аджыло,*
*Няма існей таго, што стала словам.*
**(Самацытата)**

**ЗНАХОДКА**

Аднойчы ў вёсцы, адлеглай на 5 кіламетраў ад мястэчка, дзе я жыву, непадалёку ад аўтобуснага прыпынку, на сметніку, я знайшоў дзіўны скрутак паперы, які аказаўся рукапісам з дзесяці сшытых зялёнымі ніткамі і пранумараваных аркушаў.

Я не звярнуў бы на гэтыя паперы ўвагі, каб у вочы не кінуўся першы аркуш. На ім зверху і пасярэдзіне акуратным вучнёўскім почыркам было напісана:

**СПОВЕДЗЬ САМОТНІКА**
(вершанемы)

Далей я прачытаў эпіграф ці імя:
S.m.

Наступныя восем аркушаў былі... чыстыя, некранутыя, а на дзесятым, таксама пасярэдзіне тая ж рука цесна і ўбарыста вывела:

**ЗМЕСТ**

1. ВЕТРУ, які будзе чытаць і перачытваць мае радкі
2. ПАЭТУ, які выпадкова знойдзе мой рукапіс і перакладзе яго з мовы ветру на мову людзей
3. САБЕ, якога не будзе
4. БАЦЬКАМ, з з якімі ўжо ніколі не расстануся
5. СВАЯКАМ, якія не разумелі мяне, але зразумеюць
6. СЯБРАМ, з якімі яшчэ сустрэнуся — назаўжды
7. КАХАНАЙ, якая не кахала мяне, але пакахае
8. ЧЫТАЧАМ, якія нарэшце прачытаюць маю споведзь

**ЭПІЛОГ**

Дзіўны рукапіс завяршаў не менш дзіўны подпіс:
знак цяльца
і даты:
17.V
15.VI

Правы ніжні ражок дзесятага аркуша — каля дат, дзе, відаць, значыліся гады ці год і, магчыма, адрас — быў адарваны.

Дома я яшчэ раз перачытаў рукапіс, паціснуў плячыма на адзінаццатым аркушы яго зместу, падзівіўшыся арыгінальнасці задумы аўтара, пашкадаваў, што ён не ажыццявіў яе і схаваўся за крыптаграму S.m., а пасля, зразумеўшы, што за гэтымі літарамі стаіць лацінскае Scripta manent (*напісанае застаецца*), пазначыў:

**РУКАПІС ЗНОЙДЗЕНЫ НА СМЕТНІКУ**

Пасля ў якасці працягу эпіграфа дапісаў некалькі радкоў балгарына Здраўкі Кісёва, дадаў самацытату і, палічыўшы, што гэта і ёсць дакладны пераклад ад гэтых вершанем — "з мовы ветру на мову людзей", паклаў знойдзеныя лісты ў архіў.

Амаль праз чатыры гады пасля гэтай знаходкі, палюбаваўшыся халодным сакавіцкім вечарам на камету, якая трапляе на вочы людзям раз у тысячагоддзе і невядома якім чынам уплывае на іх жыццё і лёсы, адзначыўшы, што апошні тыдзень яна прыкметна паднялася ўверх ад сузор'я Касіяпеі, я зноў згадаў пра гэты рукапіс, дакладней пра сёмы пункт яго зместу і міжволі пасміхнуўся: а ці не час прапанаваць гэты твор чытачам, пра якіх невядомы аўтар думаў у восьмым пункце?

Дзіўны рукапіс зноў лёг на мой стол, і... не было мяжы майму здзіўленню, калі я, адкрыўшы яго другую старонку, убачыў на ёй слаба акрэсленае, ледзь чытэльнае:

*ВЕТРУ, які будзе чытаць і перачытваць мае радкі*

А далей ішлі вершаваныя, уборыста напісаныя радкі. Яны ледзь акрэсліліся і на астатніх аркушах.

Прыблізна так акрэсліваюцца словы, напісаныя малаком, пад уздзеяннем лямпавага цяпла альбо часу, падумаў я, і адчуў, што сэрца прыбавіла ходу і ледзьве не вырывалася з грудзей ад змешанага пачуцця здзіўлення і радасці.

У дзівосы я не веру, хаця дапускаю іх, таму, каб супакоіцца, вырашыў: лісты, магчыма, дзеля жарту былі напісаны малаком і на іх, пажаўцелых ад часу, пачалі праступаць літары.

Я хуценька ўключыў настольную лямпу, прыгнуў яе "галаву" нізка да стала і пад цёплым святлом стаў няспешна перагортваць старонкі знойдзенага рукапісу. Неўзабаве на ўсіх аркушах яскрава вырысаваліся ўборыстыя вершаваныя радкі з тымі ж загалоўкамі, што значыліся ў змесце.

У выніку я і аказаўся тым паэтам, які пераклаў гэты рукапіс "з мовы ветру на мову людзей", а ты, чытач, будзеш адным з тых, пра каго думаў невядомы (на жаль, невядомы) аўтар.

**P.S.** *Шаноўны чытач, калі я цябе заінтрыгаваў, то спадзяюся, дарэшты не расчарую, прызнаўшыся, што гэта звычайная містыфікацыя, хоць дапускаю, што такое магло быць насамрэч. Вершы напісаны па матывах жыцця рэальнага чалавека. Гэта своеасаблівы працяг маёй паэмы "РАЗВІТАННЕ".*

**1. ВЕТРУ,**
**які будзе чытаць і перачытваць мае радкі**

*Найадданейшы служка Бога,*
*сам стыхія, сябрук стыхій,*
*у цябе я прашу нямнога:*
*нада мной не лютуй, не вый.*

*Спадабалася мне твая мова,*
*у якой дні-вякі шумяць.*
*Яе ўмеюць у простае слова*
*толькі творцы перакладаць.*

*Я табе аддаю ў ахвяру*
*плён бяссонных начэй і мрой,*
*нечытаны нікім,*
*і мару*
*зразуметым стаць хоць табой.*

*Мае вершы не маюць тэмы,*
*словаў іх не відаць-ні чуваць.*
*Вось пагэтаму "вершанемы"*
*захацелася іх назваць.*

*Не скуголь*
*і не плач нада мною*
*ні на золках, ні па начах.*
*Лепей лісцем засып і травою*
*чорны груд, дзе ляжыць мой прах.*

*Перагортвай лісты,*
*бясконца*
*перачытвай мае радкі,*
*а пасля падымі да сонца*
*альбо проста парві ў шматкі.*

*Буду рады і гэткаму лёсу*
*і глыбока схаваю дакор.*
*Ты ж люляй лугавыя росы,*
*разгамоньвай за вёскай бор.*

**2. ПАЭТУ,**
**які выпадкова знойдзе мой рукапіс і перакладзе яго з мовы ветру на мову людзей**

*Ветру ветрава,*
*ў часавым дыме*
*назусім не знікне мой след.*
*Можа, рукапіс гэты падыме*
*незнаёмец ці сябра-паэт.*

*Не астынь да яго,*
*мой руплівец,*
*блаславёны будзь,*
*дабрадзей!*
*Веру,*
*вершы мае ты асіліш*
*з мовы ветру на мову людзей.*

**3. САБЕ,**
**якога не будзе**

*Мяне няма.*
*Каго я тым здзіўлю,*
*калі навек касцьмі залягу ў гліну?*
*І я прыйшоў на грэшную зямлю,*
*каб грэх прымножыць*
*і яе пакінуць.*

*Адзін, як перст:*
*ні сына, ні дачкі.*
*Нат у нашчадках я не паўтарыўся.*
*Ці варта было цягнуць мне воз такі,*
*каб змарнаваць жыццё*
*і растварыцца ў высях?*

*Адна суцеха,*
*што такіх, як я,*
*сярод людзей-пакутнікаў нямнога.*
*Адсюль і філасофія мая:*
*пад д'яблам жыў,*
*ды адышоў да Бога.*

**4. БАЦЬКАМ,**
**з якімі ўжо ніколі не расстануся**

*Наракаць на жыццё маё сэрца*
*не ўмела,*
*я яго суцяшаў*
*колькі мелася сіл,*
*таму рэдка хадзіў да крыжоў*
*пачарнелых*
*і ні разу не плакаў ля вашых магіл.*

*Але слёзы да горла не раз падступалі,*
*і не мог я ад іх утрымацца,*
*калі*
*галубок і галубка ў наш двор прыляталі*
*і ваду з маёй цёплай далоні пілі.*

*Я карміў іх з рукі ячнай кашай і хлебам,*
*быццам іх прыручыць да сябе захацеў,*
*а пасля ім услед у бяздоннае неба*
*доўга-доўга з трывожнаю думкай*
*глядзеў.*

*Так было кожны дзень,*
*і лагоднелі вочы*
*пры шчаслівым вяртанні маіх галубоў,*
*покуль іх не заўважыў у небе аднойчы*
*над нямымі крыжамі вясковых кладоў.*

*З таго часу я стаў без журбы і трывогі*
*пазіраць на клады*
*і выходзіць часцей*
*на ўтравелую шыр векавое дарогі*
*і шукаць у нябёсах чаканых гасцей.*

*І калі зразумеў,*
*што да роднае хаты*
*мне звароту няма*
*і не будзе,*
*тады*
*за аблокі ўзляцеў,*
*быццам голуб крылаты*
*і застаўся ля вас назаўжды.*

**5. СВАЯКАМ,**
**якія не разумелі мяне, але зразумеюць**

*Я рос, як крапіва у агародзе,*
*бы васілёк у моры жытніх ніў,*
*і, як ніхто ў збяднелым нашым родзе,*
*з малых гадоў самоту палюбіў.*

*Цішэй вады, ніжэй травы*
*парою*
*я пачуваў сябе паміж сяброў,*
*і з добрай ласкі нечае за тое*
*патрапіў у кагорту дзівакоў.*

*Так вось і жыў.*
*Але не даў і знаку,*
*што і ад вас я гэта чуў,*
*калі*
*прывёў у двор бяздомнага сабаку*
*пасля таго, як*
*брата правялі*
*на могілкі*
*маўклівай талакою*
*ў апошні шлях,*

*і я сказаў,*
*што й звер*
*усёй сваёй самотнаю душою*
*адчуў наш боль*
*і праявіў давер.*

*Смяяліся...*
*Але і я не плакаў,*
*і не пачуў ніхто бацькоўскіх слоў:*
*— Дай Бог, каб кожны з вас,*
*як ён з сабакам,*
*паразуменне поўнае знайшоў.*

*Цяпер жа, калі вечнае імгненне*
*світанкам вечным мой спыніла час,*
*жыву спадзевам,*
*што паразуменне,*
*як той сабака,*
*аб'яднае нас.*

**6. СЯБРАМ,**
**з якімі яшчэ сустрэнуся — назаўжды**

*На пальцах аднае рукі*
*я палічу вас, сябрукі.*

*За тое, што вы ўсё ж былі,*
*паклон вам нізкі да зямлі.*

*У радасны і горкі час*
*заўжды быў побач кожны з вас.*

*І я цягнуў жыццё бы воз*
*без нараканняў на свой лёс.*

*Я і цяпер бязмежна рад,*
*што кожны з вас мне быў як брат.*

*І нават больш —*
*такіх сяброў*
*хапіла б мне на сто гадоў.*

*Ды знічка на краі сяла*
*аднойчы знак мне падала.*

*І я адчуў і зразумеў,*
*хоць шмат надзей і планаў меў:*

*у іншы свет навек пара*
*сыходзіць з роднага двара.*

*На золку чэрвеньскага дня*
*мяне акрыла цішыня.*

*Дык не крыўдуйце на мяне,*
*і вас такое не міне.*

*Каго раней, каго пазней...*
*Адзін канец ва ўсіх людзей.*

Жывіце, покуль сілы ёсць,
хоць кожны з вас там толькі госць.

Я з вамі стрэнуся яшчэ,
але пакуль ваш час цячэ,

цярпліва буду вас чакаць,
каб зноў з усмешкай прывітаць.

На незлічоныя гады
мы будзем разам — назаўжды.

**7. КАХАНАЙ,**
**якая не кахала мяне, але пакахае**

*Каханая мая,*
*мяне ты не кахала,*
*майму ж каханню неставала меж.*
*Яму было зямной прасторы мала*
*й завоблачных вяршынь высокіх веж.*

*Дзеля цябе я быў на ўсё гатовы,*
*маліўся на цябе, бы на абраз.*
*Адзін пагляд твой абясцэньваў словы,*
*а лёгкі крок твой запавольваў час.*

*Не верыў сну,*
*выходзіў на дарогу,*
*якою звыкла ты дамоў ішла,*
*і так хацеў патрапіць у аблогу*
*твайго, мне недаступнага, жытла.*

*Я марай жыў, хаця і меў сустрэчы*
*і пад руку парою браў цябе,*
*ды знаў, што заляцацца недарэчы,*
*і давяраўся суму і журбе.*

*Калі ж усё мінула назаўсёды*
*і так тваё не склалася жыццё,*
*чакаю я шчаслівае нагоды,*
*што ты маё раздзеліш пачуццё.*

*Сумневу ані кропелькі не маю:*
*надарыцца яна,*
*бо толькі тут*
*любоў пануе;*
*гэта ты спазнаеш,*
*калі зямных пазбавішся пакут.*

**8. ЧЫТАЧАМ,**
**якія нарэшце прачытаюць маю споведзь**

*Мяне няма,*
*але я ёсць —*
*адсутны*
*на час, які вядомы толькі мне.*
*Цяпер я пэўны:*
*ісціна і сутнасць —*
*у немаце, як некалі ў віне,*
*якое я любіў,*
*і ў тым прызнацца*
*нібыта зноў вярнуцца на зямлю,*
*ды не хачу туды назад вяртацца —*
*я слодыч іншую цяпер люблю.*

*Яна здрадні віну,*
*але без хмелю,*
*глытка яе стае на сто вякоў,*
*хаця насуперак зямному зеллю,*
*яна не грэе, а халодзіць кроў.*

*А кроў мая — ужо не кроў,*
*а сокі*
*дрэў, зёлак, траў, каравае зямлі,*
*бо наступіў мой поўдзень найвысокі —*
*мой дух анёлы ў неба паднялі.*

*І я лячу над роднаю зямлёю,*
*над роднай хатай зоркаю свячу*
*і разумею ўсіх, хто быў са мною,*
*але да іх вяртацца не хачу.*

**ЭПІЛОГ**

*І ў шчасці, і ў горы*
*memento mori*!*

г.Жабінка,
8.03.1998 — 22.05.2001г.г.

* — помні пра смерць (лац.)



"Вечнасць". Мастак Кастусь КАЧАН



АНОНС

# «ГЕНЕРАЛЫ» Ў ПАРКУ

***15 ліпеня а 19-й гадзіне, якое ні было б надвор'е, у сталічным парку імя Чэлюскінцаў адбудзецца канцэрт "Генералы беларускага року" (так у абвестцы). Удзельнічаюць "N.R.M.", "Нейро Дюбель", "Крама", "Уліс".***



ФОТАРАКУРС

## ПАЭЗІЯ ПАРТЫТУРЫ



Маэстра Міхал КАЗІНЕЦ, напэўна, ужо і сам не памятае, калі ды з нагоды чаго зроблены гэты здымак. Дзе — відаць: на сцэне Беларускай акадэміі музыкі (што лёгка вызначаецца па непаўторнай "кансерваторскай" ляпніне), сярод нотных пультаў. Магчыма, фатограф "спыніў імгненне" ў перапынку адной з першых рэпетыцый студэнцкага сімфанічнага аркестра "Маладая Беларусь". Стварыў аркестр, кіруе ім і выводзіць яго ў шырокі свет менавіта рэктар БАМ, народны артыст нашай краіны, прафесар Міхал Казінец.

Днямі, дарэчы, надарылася нагода павіншаваць Міхала Антонавіча: Прэзідэнт Рэспублікі Беларусь аб'явіў яму персанальную Падзяку — за вялікі асабісты ўклад у падрыхтоўку і выхаванне маладых музыкантаў...

Угледзьцеся ў фота: сімфанічную партытуру маэстра трымае, як зборнік паэзіі!

С. ВЕТКА

ЦЫТАТА АФІШЫ

*Беларускі тэатразнаўца Таццяна Арлова:* "Мне здаецца, товстоноговцы пакуль не ацанілі нашага рэжысёра Мікалая Пінігіна як належыць. Іншая справа, ці хоча *Пінігін узначаліць такі тэатр?* Весці тэатральны карабель вельмі, вельмі цяжка. Магчыма, падзяліўшы функцыі паміж цяперашнім мастацкім кіраўніком Лаўровым і і Пінігіным: Лаўроў — агульнае кіраўніцтва, Пінігін — рэжысура, БДТ насуперак распаўсюджанаму меркаванню ўвайшоў бы ў адну і тую ж раку двойчы і зноў стаў заканадаўцам тэатральнай моды".

"Які тэатр нам паказаў БДТ?"

"Развлечения и отдых", 30 чэрвеня — 7 ліпеня, 2003



АФІША ЛІПЕНЯ



**Нацыянальны акадэмічны тэатр балета**
**пл. Парыжскай Камуны, 1,**
**тэл. 234-06-66**

13 — П. Чайкоўскі "Лебядзінае возера"

**Пачатак ранішніх спектакляў у 11.30, вячэрніх а 19-й гадзіне**

16 — Ф. Рэньяр "Адзіны спадкаемца"

17 — Г. Гауптман "Перад заходам сонца"(закрыццё юбілейнага сезона)

**Пачатак ранішніх спектакляў а 11-й, вячэрніх а 19-й гадзіне**

**Тэатр-студыя кінаакцёра**
**пр. Машэрава, 13,**
**тэл. 223-08-11**

11, 12 — Г. Салоўскі "Востраў нашай любові і надзеі", праўдзівая казка для дарослых

14, 15 — Л. Вернейль "Выкраданне Алены", французскі адюльтэр

16, 17 — С. Бартохава "Поле бітвы", камічная драма



**Нацыянальны акадэмічны драматычны тэатр імя М. Горкага**
**вул. Валадарскага, 5,**
**тэл. 220-15-41, 220-39-66**

**Летнія сезоны ў Тэатры імя М. Горкага!**

11 — М. Эрдман "Тэрмінова патрабуецца...самазабойца"

15 — І. Губач "Ад'ютантШа яго Вялікасці"

18, 19 — Э.дэ Філіпа "Філумена Мартурана", камедыя

21 — "Айседора. Танец кахання", лірычная драма

22, 23 —А. Данілаў "Мы ідзём глядзець "Чапаева", трагіфарс

**Пачатак спектакляў а 19-й гадзіне**

*Сцэна са спектакля "Адзіны спадкаемца" (так выглядаў спектакль некалькі сезонаў таму).*

НАЎЗДАГОН

## БРАВА, ФІГАРА!

***Менавіта такім воклічам вітала публіка выканаўцу гэтай класічнай партыі саліста Нацыянальнага акадэмічнага тэатра оперы Аляксандра Краснадубскага.***

У спектаклі "Севільскі цырульнік" ён вясёлы, рухавы, дасціпны. Ды і прыгожы палётны яркі барытон спевака не можа не палюбіцца.

Наогул, у той вечар кожны ўдзельнік папулярнай камічнай оперы быў пасвойму яркі. Разіна Алены Шведавай пакарыла абаяльнасцю. Доктар Бартала ў выкананні Віктара Чарнабаева ўражваў арганічнай камедыйнасцю, весялосцю і яшчэ — цудоўнай дыкцыяй. У добрым ансамблі былі Альмавіва — Аляксандр Жукаў, дон Базіліё — Дзмітрый Капілаў. Дырыжыраваў аркестрам Леў Лях.

Апошні спектакль опернага сезона ў сталіцы, "Севільскі цырульнік" Д. Расіні прайшоў замест абвешчанага "Вяселля Фігара" В. А. Моцарта і парадаваў публіку.

Вера КРОЗ

У СТАЛІЦЫ



ЗАЛА КАМЕРНАЙ МУЗЫКІ (пр. Ф. Скарыны, 44а)

**15 — Арганіст Уладзімір Неўдах** дае сольны канцэрт. У праграме творы Фробергера, Баха, Райнбергера.



**Фота В. СТРАЛКОЎСКАГА**




Выходзіць З 1932 ГОДА
У 1982 годзе ўзнагароджаны ордэнам Дружбы народаў

**ГАЛОЎНЫ РЭДАКТАР**
**Віктар ШНІП**

Рэдакцыйная рада:

Вольга БАРАБАНШЧЫКАВА,
Святлана БЕРАСЦЕНЬ,
Леанід ГАЛУБОВІЧ,
Алесь ГАЎРОН — адказны сакратар,
Людміла РУБЛЕЎСКАЯ,
Уладзімір САЛАМАХА — намеснік галоўнага рэдактара



АДРАС РЭДАКЦЫІ:
220005, Мінск,
вул. Захарава, 19
ТЭЛЕФОНЫ:
галоўны рэдактар — 284-6673
намеснік галоўнага рэдактара — 284-4404
адказны сакратар — 284-6673

АДДЗЕЛЫ:
публіцыстыкі — 284-7965
пісьмаў і грамадскай думкі — 284-7965
літаратурнага жыцця — 284-7965
крытыкі і бібліяграфіі — 284-7965
паэзіі і прозы — 284-7965
музыкі — 284-8153
тэатра, кіно — 284-8153
выяўленчага мастацтва — 284-7965
карэктарская — 284-8091
бухгалтэрыя — 284-6672
Тэл./факс — 284-85-25

*Пры передруку просьба спасылацца на "ЛіМ".*

*Рукапісы рэдакцыя не вяртае і не рэцэнзуе.*

*Пазіцыя рэдакцыі можа не супадаць з меркаваннямі і думкамі аўтараў публікацый.*

Набор і вёрстка камп'ютэрнага цэнтра тыднёвіка "ЛіМ"

Выходзіць раз на тыдзень па пятніцах

Друкарня Рэспубліканскага унітарнага прадпрыемства "Выдавецтва "Беларускі Дом друку" г. Мінск, пр. Ф. Скарыны, 79

Індэкс 63856 Наклад 1521
Нумар падпісаны ў друк 9.07.2003 у 15.00

Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь
Выдавец: Рэдакцыйна-выдавецкая ўстанова "Літаратура і мастацтва"

Рэгістрацыйнае пасведчанне № 715

Заказ 2027

Д 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12